наша свабода

№19(246) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

18 ЛЮТАГА 2002 году ПАНЯДЗЕЛАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 284-36-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ

# Хто і на што спадзяецца?

*Рэфармаваны МЗС Беларусі чарговым разам беспаспяхова спрабуе праўрацца ў сусветную супольнасць.*

Люты азначыўся цэлым шэрагам заяваў розных беларускіх чыноўнікаў, якія сведчаць пра тое, што не толькі ўва ўнутранай, але і ў знешняй палітыцы пануючы рэжым нічога не збіраецца мяняць. Як вядома, на гэтым тыдні, 21 лютага, Сталы камітэт Парламенцкай асамблеі АБСЕ будзе разглядаць у Вене так званае беларускае пытанне. У асноўным яно зводзіцца да вядомых чатырох умоваў, пры якіх Беларусь зможа стаць паўнавартасным сябрам ПА АБСЕ і некаторых іншых міжнародных арганізацыяў. Мяркуючы па заявах галоўнага дыпламата краіны, што прагучалі на мінулым тыдні, ні на якія саступкі і кампрамісы цяперашняе кіраўніцтва Беларусі ісці не збіраецца.

Многія еўрапейскія чыноўнікі і палітыкі проста анямелі, пачуўшы словы Лукашэнкі, што чаканага пашырэння функцыяў парламенту не адбудзецца, бо яно будзе азначаць развал існай палітычнай сістэмы. Усе свае абяцанні (да прыкладу, дадзеныя на Стамбульскім саміце АБСЕ) пра тое, што пытанне пра функцыі парламенту будзе вырашацца паступова і пасля парламенцкіх, прэзідэнцкіх выбараў, беларускі кіраўнік проста не жадае ўспамінаць.

Заканчэнне на стар.3

# У Мінску забаронена кахаць


Фота Ул.ШЛАПАКА

Мінгарвыканкам не даў дазволу на правядзенне 14 лютага ў Мінску шэсця, прымеркаванага да Дня святога Валянціна – дня ўсіх закаханых, па заяўленым маршруце. Тым не менш арганізатары абвесцілі збор людзей на плошчы Якуба Коласа – як і планавалася з самага пачатку. Яшчэ за гадзіну да прызначанага часу на адрэзку праспекту Ф.Скарыны паміж плошчамі Перамогі і Якуба Коласа міліцыянты пачалі затрымліваць людзей, якія з пакункамі, тронкамі ад сцягоў накіроўваліся да месца правядзення акцыі. За бел-чырвона-белыя сцягі былі, па словах П.Севярынца, «сапраўдныя сутычкі».

Затым 250-300 маладых людзей рушылі ходнікамі да Акадэміі навук, там павярнулі і па вуліцы Сурганава дайшлі да перасячэння з вул.Багдановіча. Адтуль міліцыянты заварнулі калону назад, і каля 18 гадзінаў на перасячэнні вуліцы Дарашэвіча і праспекту Францішка Скарыны калону пачалі атакаваць АМАПаўцы, што прыбылі на трох аўтобусах. Як вынік – 32 чалавекі затрыманыя непасрэдна ў час акцыі (16 з іх – непаўналетнія). Усяго, па падліках МФ, у гэты дзень затрымалі 40-50 чалавек.

**Рыгор БУЯН**

# Узброены напад на ЗБС

*15 лютага 2002 году ў 19.10 на цэнтральную сядзібу Задзіночання беларускіх студэнтаў па вуліцы Дарашэвіча, 4-2 у Мінску адбыўся ўзброены напад.*

2 чалавекі з нажом і разводным ключом уварваліся ў памяшканне, дзе мусіў адбывацца сход маладых сябраў арганізацыі. Адзін з нападаючых быў у масцы і пальчатках і відавочна кіраваў аперацыяй; другі не хаваў твару і пагражаў, што яго апазнанне зашкодзіць людзям, якія яго бачылі; было падобна да таго, што ён знаходзіўся пад уздзеяннем алкаголю ці наркотыкаў. Адразу ж быў разбіты тэлефонны апарат і перарэзаны правады.

Хлопцаў і дзяўчат паклалі тварамі на падлогу, некаторых звязалі. Тых, хто спрабаваў варушыцца, збівалі, тапталіся па іх нагамі. Юрку Храмога прывязалі да стала і махалі нажом ля твару, пагражалі адрэзаць вушы, утыкалі нож ля галавы, прыстаўлялі да горла. Чалавек без маскі паміж лаянкамі распавёў, што ваяваў у Чачні і такіх выразаў сотнямі. Злачынцы здзекаваліся са сцягу ЗБС, паводзілі сябе ўпэўнена, не спяшаліся, добра разбіраліся ў тэхніцы. Перш чым сысці, яны адабралі ва ўсіх прысутных ключы ад сядзібы ЗБС.

Заканчэнне на стар.3




# Сведчанні затрыманых падчас «Акцыі кахання»

*15 лютага ў Праваабарончы цэнтр «Вясна» звярнуліся маладыя людзі, якіх затрымалі падчас «Акцыі кахання» і якія ўсю ноч правялі ў прыёмніку-размеркавальніку на Акрэсціна. У судзе Савецкага раёну, куды іх павезлі з Акрэсціна, яны заявілі хадайніцтвы аб удзеле ў судовым працэсе адвакатаў, таму суды перанеслі на наступны тыдзень. Вось некаторыя вытрымкі з заяваў, якія напісалі ўдзельнікі моладзевай акцыі.*

Дашкевіч Зміцер: «Мяне затрымалі каля стадыёну БДПА разам з С.Івашкевічам. Ён – сведка таго, як мяне збіваў палкоўнік міліцыі (прозвішча ў Савецкім РУУС ніхто не сказаў). Жорстка абыходзіліся з намі і ў РУУС: мяне прыкавалі кайданкамі да батарэі, палкоўнік лупіў мяне па твары, таптаўся па нагах, абражаў, пагражаў расправаю. Ён таксама біў па твары С.Івашкевіча. Знаходзіліся мы ў РУУС з 16.30 (момант затрымання) да 23.00, пакуль нас не павезлі ў прыёмнік-размеркавальнік. Далей з намі абыходзіліся лепей, але не кармілі раніцай, і а палове на 12-ю галодными павезлі ў суд».

Герасімовіч Сяржук: «...У Савецкім РУУС мяне пратрымалі 3 гадзіны, пасля чаго далі на подпіс пратакол затрымання, у якім мяне абвінавачвалі ва ўдзеле ў несанкцыянаванай акцыі, карыстанні незарэгістраванай сімволікай і выкрыкванні антыўрадавых лозунгаў. Калі я адмовіўся падпісаць пратакол, мне пачалі пагражаць непрыемнасцямі ва універсітэце і адмовіліся пускаць у прыбіральню... У 23 гадзіны мяне разам з 5 затрыманымі і 2 непаўналетнімі адвезлі ў спецпрыёмнік-размеркавальнік на Акрэсціна... У прыёмніку-размеркавальніку да нас паставіліся даволі лаяльна, але зранку адмовілі ў сняданку...»

Непаўналетняга Фінкевіча Артура ўвогуле затрымалі на вуліцы Варвашэні, а не падчас акцыі. У заяве ён напісаў: «Мы з Сержуком Касцюкевічам выйшлі з Управы БНФ, перайшлі цераз дарогу, падышлі да машыны, у якой сядзелі 6 чалавек. Калі яны ўбачылі нас, адчынілі дзверы, і мы перадалі ім 2 асобнікі віншавання з Днём святога Валянціна. У гэты момант пад'ехала другая машына, з якой выскачылі 2 чалавекі ў цывільным і запхалі нас у машыну. Пры гэтым яны не прадстаўляліся і не пыталі пашпартоў. Праз 5 хвілінаў мы былі ў Савецкім РУУС. Там на мяне склалі пратакол аб парушэнні арт. 167.1, і інспектар па справах непаўналетніх Нікіціна Святлана Сяргееўна напісала, што я быў затрыманы на вул. Дарашэвіча, на заўвагі спыніць супраціўпраўныя дзеянні не рэагаваў і г.д. З гэтага пратаколу я даведаўся, што мяне затрымлівалі лейтэнанты міліцыі Гадынец А.С. і Кумагерцын. У 20.50 прыехала мая маці, якая, як і я, не пагадзілася падпісаць пратакол, напісала толькі: «Сына з міліцыі забрала, але не згодная з пратаколам».

**Інфармацыйны аддзел ГА ПЦ «Вясна»**

## ВЕСТКІ



# Едзеш у Латвію – май 100 даляраў

Латвія ўвяла змены ў візавы рэжым з Беларуссю. Цяпер, калі мэтаю наведання гэтай краіны будзе аздараўленчы і культурны турызм, візы можна будзе атрымаць на падставе курортных і турыстычных пуцёвак. Пры ўездзе ў Латвію трэба будзе мець не менш за 60 латаў (гэта 100 даляраў) на кожны дзень знаходжання там.

# Інфляцыя па-за кантролем

Па звестках Міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі, за першы тыдзень лютага спажывецкія цэны ў нашай краіне ўзраслі на 1,6%. Для параўнання, за першы тыдзень мінулага месяца цэны павялічыліся на 1,9%. За першыя 7 дзён леташняга лютага яны выраслі на 0,9%.

Наагул з пачатку бягучага году спажывецкія цэны ў Беларусі ўзняліся на 7,8%, за аналагічны перыяд мінулага году – на 5,7%. На 2002 год беларускі ўрад і Нацыянальны банк прагназуюць павелічэнне цэн на 20-27%, але інфляцыя ўжо сягнула трэціны ад гэтага ўзроўню.

# Казакі любяць зброю

Генерал-маёра казацкіх войскаў Расіі затрымалі ў Беларусі за незаконныя дзеянні са зброяй. Як падае радыё «Рацыя», маладзечанская міліцыя знайшла на кватэры аднаго мясцовага жыхара зброю – пісталет «Наган», вінтоўку, шаблю ды іншыя прылады, якія ён набываў для расійскага грамадзяніна па прозвішчы Салаўёў. Зараз па гэтай справе вядзецца следства.

# Смаленск – барадзінская сталіца

Сакратар Саюзу Беларусі і Расіі Павел Барадзін марыць зрабіць сталіцай Саюзу беларускі некалі горад Смаленск. У сувязі з гэтым П.Барадзін спадзяецца здабыць інвестыцыі на будоўлю другой чаргі Смаленскай АЭС.

# Лявонава не адпусцяць

У пракуратуры Беларусі заявілі, што не бачаць падставаў для змены меры стрымання былому кіраўніку МТЗ Міхаілу Лявонаву. Маўляў, М.Лявонава нельга адпускаць, бо ён можа ўцячы за мяжу. Гэткі адказ атрымаў Беларускі саюз прадпрымальнікаў на хадайніцтва з просьбаю вызваліць М.Лявонава.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Крыніца: www.gismeteo.ru

## Курс наяўнага даляра на «чорным рынку»

**1680**

## Беларусь таксама робіць клоны

15 лютага Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ аб стварэнні Другога нацыянальнага тэлеканалу. У афіцыйным каментары да ўказу гаворыцца пра тое, што «цяпер на інфармацыйным полі рэспублікі дзейнічае каля 50 прыватных і дзяржаўных тэлерадыёкампаній, але толькі адзін нацыянальны тэлеканал, які вяшчае на ўсю тэрыторыю краіны».

Пра адкрыццё БТ-2 казалі некалькі апошніх гадоў, нарэшце зробленыя канкрэтныя захады: мяркуецца, што другі канал пачне выходзіць у эфір 1 траўня. І хутчэй за ўсё, прынамсі першым часам, гэта будзе нешта накшталт СТВ: уласныя перадачы плюс рэтрансляваныя з якога-небудзь расійскага тэлеканалу. Верагодна, з *ОРТ*, бо, па чутках, менавіта на ягонай частцы мае быць размешчаны БТ-2.

Цяпер у Адміністрацыі прэзідэнта ламаюць галовы на тым, каго прызначыць кіраўніком новага каналу. Па нашай інфармацыі, пакуль у якасці самай рэальнай разглядаецца кандыдатура колішняга старшыні БТ-1 Рыгора Кісяля, які пасля гэтага быў паслом у Румыніі. Не выключана, што на БТ-2, у тым ліку ў кіраўніцтве, могуць з'явіцца нядаўна звольненыя з галоўнага БТ былы вядучы праграмы Яўген Мялешка і былы генеральны прадзюсер Ягор Хрусталёў. Якасна новых кадраў на БТ-2 чакаць не даводзіцца.

**Мяфод ШАЙБІН**

## Вайна міні-рынкам

Улады Наваполацку маюць намер падвысіць плату за арэнду гандлёвых месцаў для ўсіх індывідуальных прадпрымальнікаў, якія гандлююць на шасці міні-рынках гораду. Новы памер платы будзе вышэйшы ў тры-дзесяць разоў і ў некаторых месцах будзе набліжацца да 30 000 рублёў за адзін дзень. Гэта закране каля сотні гандлёвых месцаў. У якасці альтэрнатывы гандлярам прапануецца знайсці сабе месца на галоўным гарадскім рынку. Новы памер арэнднай платы на міні-рынках планавалася зацвердзіць на паседжанні Наваполацкага гарвыканкаму 13 лютага, але напярэдадні разгляд гэтага пытання адклалі і заявілі пра намер увесці новыя стаўкі арэнднай платы толькі з наступнага месяца. Гэта можа быць рэакцыяй на сходы наваполацкіх прадпрымальнікаў, арганізаваныя з гэтай нагоды кіраўніцтвам Незалежнага прафсаюзу прыватных прадпрымальнікаў гораду, і пісьмова выказанае жаданне ягонага кіраўніка Валерыя Шаўчэнкі ўзяць удзел у паседжанні гарвыканкаму. Гарадскі прафсаюз прадпрымальнікаў разам з мясцовай арганізацыяй АГП распаўсюдзілі адмысловую заяву, у якой паведамілі пра намер пратэставаць супраць гэтага рашэння гарадскіх уладаў праз удзел у прафсаюзным мітынгу 27 лютага, а таксама іншым чынам.

**Міхал ЧАРВІНСКІ**

## Грып ідзе па Беларусі

У Беларусі працягваецца рост захворванняў на грып і вострыя рэспіраторныя вірусныя інфекцыі (ВРВІ). Як паведаміла БелаПАНу загадчыца аддзялення імунапрафілактыкі паветрана-кропельных інфекцый Рэспубліканскага цэнтру гігіены і эпідэміялогіі Святлана Тарарук, на сённяшні дзень пра пачатак эпідэміі грыпу афіцыйна аб'явілі ў 12 кантрольных гарадах краіны.

За апошні тыдзень ва ўсіх 18 кантрольных гарадах з сімптомамі грыпу і ВРВІ па дапамогу да медыкаў звярнуліся 83 850 чалавек. Гэта на 28,8% больш, чым у папярэдні тыдзень. Дзеці да 14 гадоў складаюць 51,8% ад усіх хворых. Эпідэмічны парог перавышаны па краіне ў 4,2 раза. З пачатку эпідэміі шпіталізавалі 839 чалавек, у тым ліку 610 дзяцей. У 166 школах, у тым ліку ў 137 мінскіх, спынілі заняткі.

**Вольга АСІПЕНКА**

## Бюджэт не плаціць за льготнікаў

Зноў ініцыруюць падвышэнне тарыфаў аплаты за свае паслугі рэгіянальныя прадпрыемствы Міністэрства сувязі. Падставаю для гэтага лічыцца страта рэнтабельнасці большынёю іх па выніках працы ў мінулым годзе. Толькі «Брэстаблтэлекам» і «Гроднатэлекам» змаглі разлічвацца ў кантрольныя тэрміны па працэнтах за валютныя крэдыты Еўрапейскага банку рэканструкцыі і развіцця. З мясцовымі пастаўшчыкамі і падрадчыкамі даводзіцца разлічвацца за выкананую працу і паслугі часткова бартэрам. На асобных вузлах сувязі яго доля перавышае ўжо 10-12%. Сувязісты ў заходніх абласцях, дзе ёсць прапановы ад польскіх фірмаў паўдзельнічаць у развіцці еўрапейскіх тэхналогій, мусяць адмаўляцца. Хоць у Беларусі быццам бы існуе прыярытэт на прыцягненне інвестыцыяў, але ў сапраўднасці пераважае не эканоміка, а палітыка.

Каб «заваяваць» электарат перад выбарамі 9.09.2001 г., давялося зноў пашыраць кантынгент «лукашэнкаўскіх» кліентаў. Прыкладам, на Брэстчыне 36 000 чалавек ільготнікаў. Насуперак абяцанням хаця б часткова кампенсаваць фактычныя затраты на паслугі для іх, рэспубліканскі і абласны бюджэты не пералічваюць сувязістам 232 мільёны рублёў. Вялізныя сумы запазычанасці цягнуцца таксама за самімі бюджэтнымі ўстановамі і арганізацыямі. У студзені на Брэстчыне сувязістам давялося адключыць за несвоечасовы разлік больш як 5 тысячаў абаненцкіх нумароў.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

## Дазвол на графіці

Патрыятычныя моладзевыя аб'яднанні ў Брэсце падтрымліваюць маратор сталічных «зубраўцаў» на вулічную графіку. Але каб не згубіць яднання і майстэрства, шмат хлопцаў і дзяўчат наважыліся паўдзельнічаць у турніры па насценным жывапісе 24 лютага.

Напярэдадні гарвыканкам даў дазвол на графіці, бо чыноўнікі нарэшце прыслухаліся да думкі, што сцены не павінны быць шэрыя. На гэты раз райтэр-каманды, у складзе кожнай з якіх не павінна быць больш за пяць чалавек, размалююць 100 метраў бетоннай агароджы ў цэнтральным гарадскім парку. За лепшую ідэю, тэхніку і кампазіцыю ўручаць прызы, а для ўсіх удзельнікаў арганізатар турніру «Заходні рэгіён» наладзіць вясёлую дыскатэку ў клубе «Везувій».

**Мікола НЯЗЛОМНЫ**

## Нетрадыцыйная энергія

Да 2005 году Беларусь значна пашырыць выкарыстанне нетрадыцыйных крыніцаў энергіі. Пра гэта заявіў старшыня Камітэту па энергаэфектыўнасці пры Савеце міністраў Леў Дубовік.

«Цяперашняя пяцігодка (2001—2005 гады), асабліва яе другая частка, будзе знакавай у плане нарошчвання тэмпаў атрымання энергіі коштам нетрадыцыйных крыніцаў», – сказаў Дубовік. У прыватнасці, праз два гады пачнецца выкарыстанне хуткарослай драўніны (тэрмін яе вырошчвання – тры гады). Мяркуецца стварэнне сістэмы цэнтралізаванай нарыхтоўкі драўніны – пілавіння, галінак, карэнішчаў. Адпаведны бізнес-план, паводле словаў Дубовіка, вынесены на разгляд Глабальнага экалагічнага фонду. Беларускі бок разлічвае на атрыманне 3 млн. даляраў ЗША пры агульным кошце праекту 8 млн. Паводле падлікаў камітэту, у цэлым доля замежных інвестыцый у энергазберажэнні павінна вырасці з 0,5% у 1996-2000-м да 6,5% у 2001-2005 гадах.

Хуткім часам распачнецца выпуск ветраных установак для атрымання электрычнай энергіі. «Адна такая доследна-прамысловая ўстаноўка змантавана ў Мінскай вобласці пад Дзяржынскам. Яна разлічана на нізкую хуткасць ветру – да 5 метраў у секунду. Вынікі выпрабаванняў выкарыстаюць пры распрацоўцы ветраной устаноўкі на 600-1 000 кілават, якая пачнецца ў другой палове году. Захад ужо зацікавіўся нашымі планамі, паколькі каэфіцыент выкарыстання энергіі ветру ў беларускіх установак будзе ўдвая большы, чым у замежных – 67 супраць 33%», – паведаміў старшыня Камітэту па энергаэфектыўнасці.

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

## Праблемы прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці

Праблемы прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці былі абмеркаваны на паседжанні «круглага стала», які прайшоў 16 лютага ў Мінску, у офісе Партыі БНФ. У якасці асноўных дакладчыкаў выступілі прафесар Сцяпан Васкоўскі і дырэктар аналітычнага цэнтру «Стратэгія» Леанід Заіка. У абмеркаванні дакладаў удзельнічалі старшыня грамадскага аб'яднання БНФ «Адраджэнне» і Партыі БНФ Вінцук Вячорка, намеснікі старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Яраслаў Раманчук і Павел Данейка, прафесары Барыс Жаліба і Уладзімір Кулажанка, старшыня Беларускага саюзу прадпрымальнікаў Аляксандр Патупа.

Былі прадстаўлены розныя канцэпцыі прыватызацыі – ад ліберальнай да неамарксісцкай. Л.Злотнікаў узняў праблему інвестыцый і магчымай экспансіі расійскага капіталу. Апошні, лічыць Злотнікаў, не прыстасаваны да існавання ў канкурэнтным асяроддзі, і яго прыход у Беларусь можа пацягнуць за сабой вытворчасць неканкурэнтных тавараў і закрыццё ўнутранага рынку.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

## Прафарыентацыя нямоглых

Грамадская арганізацыя «Беларуская асацыяцыя дапамогі дзецям-інвалідам і маладым інвалідам» (БелАДДІіМІ) у 2002 годзе працягвае працу па прафесійным навучанні, працоўным выхаванні і арганізацыі занятасці маладых інвалідаў. У 2001 годзе дзякуючы намаганням БелАДДІіМІ ў супрацоўніцтве з дзяржаўнымі структурамі і пры падтрымцы фонду *UNICEF* у трох рэгіёнах краіны пачалі працаваць арганізацыі, якія прадастаўляюць працоўныя месцы абароненай занятасці маладым інвалідам з разумовымі і фізічнымі абмежаваннямі. Напрыклад, у Ленінскім раёне Мінску адкрыўся шматпрофільны цэнтр прафарыентацыі «Лазінка» для маладых людзей, якія скончылі дапаможныя школы або вучыліся дома: яго выхаванцы вучацца народным рамёствам і ў далейшым змогуць працаваць у майстэрні пад кіраўніцтвам інструктараў.

У Клецку Мінскай вобласці прыняла першых кліентаў цырульня, якая прадаставіла працоўныя месцы тэхнічнага персаналу дзяўчатам з разумовымі абмежаваннямі; там жа зарэзервавана месца вучня цырульніка для інваліда з фізічным захворваннем. У Століне Брэсцкай вобласці абсталявалі памяшканне для швейнай майстэрні, дзе праз паўгода пачне працаваць група маладых людзей з псіхафізічнымі абмежаваннямі, якая зараз праходзіць навучанне на базе мясцовага ПТВ № 164. Акрамя таго, праграмы перадпрафесійнай падрыхтоўкі ўкараняюцца ў працу рэабілітацыйных цэнтраў для дзяцей-інвалідаў у Мінску, Пухавічах, Асіповічах, Слаўгарадзе, Маладзечне. У планах 2002 году – праца маладых інвалідаў у друкарні і ў спецыялізаваным сельскагаспадарчым прадпрыемстве ў Мінску, абсталяванне спецыялізаваных працоўных месцаў у службе быту Жлобіна, асваенне працоўных навыкаў выхаванцамі рэабілітацыйных цэнтраў яшчэ некалькіх рэгіёнаў краіны.

**Святлана НЯСТРАХАВА**

## Рэформа аўтатранспарту

У сёлетніх планах міністэрства транспарту і камунікацыяў распрацаваць уласную схему лізінгу, якая дапаможа зварухнуць з мёртвае кропкі абнаўленне замартызаванага рухомага складу аўтапаркаў.

Каб яго падтрымліваць у працоўным стане, штогод неабходна замяняць 600 адзінак пасажырскай і 1 тысячу грузавой тэхнікі. 1 адзінка рухомага складу «цягне» на 100 тысяч даляраў. Натуральна, што такіх грошай у дзяржавы няма, таму лізінг становіцца адзіным выйсцем.

**Інга ГРЫМОНТАВА**

### НАШЫ РЭКІ. СВІСЛАЧ

Фота Ул. ШЛАПАКА

Беларускаму бюджэту пашчасціла: вялікай паводкі сёлета ў краіне не будзе

## Касірка за кратамі

Былая касірка Магілёўскага аўтобуснага парка №4 Святлана Кірэенка рашэннем суду Кастрычніцкага раёну абласнога цэнтру 12 лютага прызнана вінаватай у крадзяжы і асуджана да трох з паловай гадоў зняволення без канфіскацыі маёмасці, аднак яе пазбавілі права займаць матэрыяльна адказныя пасады на працягу пяці гадоў.

22 сакавіка 2001 году касірка знікла з працоўнага месца разам з месячнай заработнай платай работнікаў парка – 10,5 мільёна беларускіх рублёў. Суду Святлана Кірэенка патлумачыла, што зрабіла гэта пад пагрозамі выпадковага знаёмага. Ён, паводле яе слоў, і падштурхнуў яе да ўчынення злачынства.

**Канстанцін УВАРАЎ**

## Коласаўцы ў Парыжы

Спектакль «Шагал... Шагал» пакажа Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Якуба Коласа (Віцебск) у Цэнтры П'ера Кардэна падчас Тыдня беларускай культуры (Парыж, 15-21 красавіка 2002 году).

Спектакль у 1999 годзе паставіў заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Віталь Баркоўскі. «Шагал... Шагал» адзначаны прызамі міжнародных тэатральных фестываляў – Эдынбургскага (Вялікабрытанія) і «Белая вежа» (Брэст, 2001 год). Праца віцяблян паспяхова прадстаўляла нацыянальнае тэатральнае мастацтва на фестывалях у Лондане (Вялікабрытанія) і Торуні (Польшча), Кішынёве (Малдова) і Фрыулі (Італія). Спектакль плануецца паказаць парыжанам тройчы.

У рамках тыдня, згодна з папярэдняй дамоўленасцю паміж міністрам культуры Леанідам Гулякам і П'ерам Кардэнам, запланаваныя таксама два канцэрты салістаў Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатру оперы Беларусі і вядомых музыкаў-інструменталістаў. Паводле словаў начальніка ўпраўлення міжнароднай і прававой працы Міністэрства культуры Міхаіла Кажуры, канчатковы выбар вакалістаў, інструменталістаў і творчага калектыву адбудзецца на будучым тыдні.

**Марат ГАРАВЫ**

# Алімпіяда праходзіць экватар, у Беларусі – ніводнага медаля

*Ужо дайшлі да свайго экватара зімовыя Алімпійскія гульні ў Солт-Лэйк-Сіці, а беларусы па-ранейшаму на медалі толькі спадзяюцца.*

За тры дні, якія прайшлі з мінулага выпуску НАШАЙ СВАБОДЫ, нашы атлеты паспрабавалі выйграць хаця б нешта ў амаль дзесяці відах спорту. І па выніках гэтых спробаў стала відавочна, што медалі, калі і будуць заваяваныя, то толькі ў перыяд з панядзелка па сераду. Менавіта ў гэтыя тры дні будуць разыгрываюцца ўзнагароды ў мужчынскім і жаночым фрыстайле-акрабатыцы, у фінальную частку якіх паспяхова выйшлі нашы Аляксей Грышын (з 1-м вынікам), Дзмітры Рак (5-ы), Дзмітры Дашчынскі (з 12-м) і Ала Цупер (3-м). Цяпер беларусы маюць усе шансы прынесці для краіны доўгачаканыя медалі. Але першай усё ж мае шансы гэта зрабіць наша канькабежка Анжэліка Кацюга, якая заняла на дыстанцыі 500 метраў пятае месца. Як вядома, Анжэліка крыху лепш праходзіць дыстанцыю ў 1 000 і паўтары тысячы метраў, а менавіта ў гэтых дысцыплінах і будуць разыграныя медалі.

Па вялікім рахунку, гэта і ёсць усе нашыя рэальныя шансы. Ну хіба яшчэ можна крыху паспадзявацца на нашых біятланістаў-ціхаходаў у эстафеце 20 лютага.

А тым часам стартаваў фінальны хакейны алімпійскі турнір. У нашай групе «Д» выступаюць у сваю сілу беларускія хакеісты. У стартавым матчы супраць зборнай Расіі, складзенай цалкам з «зорных» ігракоў Нацыянальнай хакейнай лігі, нашы хлопцы саступілі з лікам 4:6, але пры гэтым здзівілі і спецыялістаў, і сапернікаў даволі якаснай гульнёй. У некаторыя перыядзе гульні беларусы нават глядзеліся на роўных з расіянамі. Дапамагала, відаць, беларусам і моцная падтрымка балельшчыкаў на трыбунах. Справа ў тым, што амерыканцы ў кожнай гульні шчыра падтрымліваюць слабейшага, а такім у фінальным турніры прэтэндуе на лічыцца зборная Беларусі. І яна гэта даказала другой сваёй гульнёй супраць зборнай Фінляндыі. Такога бездапаможнага хакея ў выкананні беларусаў свет не бачыў даўно. Вынік 1:8 на карысць фінаў шакаваў яшчэ і таму, што за суткі да гэтага зборная Фінляндыі сама прайграла камандзе ЗША з лікам 0:6. Што ж цяпер будзем рабіць у гульні супраць амерыканцаў сёння?! БТ транслюе матч напрамую ў 20.00.

Зрэшты, як бы нашы хакеісты ні выступілі ў фінальнай частцы, па рэгламенце турніру яны ўсё роўна гуляюць у чвэрцьфінале. Іншая справа, што сапернік ім дастанецца куды мацнейшы. Хутчэй за ўсё гэта будуць чэхі альбо шведы.

Са скандалаў жа канца мінулага тыдня, на якія гэтыя Алімпійскія гульні багатыя, варта адзначыць нябачаны ўжо некалькі дзесяткаў гадоў распадзел алімпійскага золата паміж Расіяй і Канадай. У спаборніцтвах па фігурным катанні сярод спартыўных пар расійская пара перамагла канадцаў з мінімальнай перавагай, але на погляд і публікі, і самых канадцаў – несправядліва. Тыя падалі пратэст, і ў выніку адна з суддзяў, француженка, прызналася, што падсуджвала расейцам з-за цiску зверху. Ужо выдадзеныя залатыя медалі ў расейцаў вырашылі не забіраць, а проста далі канадцам яшчэ адзін камплект. Руская ж СМІ стварылі з гэтага яшчэ адзін прэцэдэнт «сусветнай сіянісцка-заходняй змовы супраць вялікай Расіі». Зараз глядзець рэпартажы аб алімпіядзе па расійскіх каналах магчыма толькі з выключаным гукам, бо інакш абавязкова давядзецца сутыкнуцца з пяцю-шасцю меркаваннямі аб момантах, будзь то хакей, біятлон альбо керлінг, дзе суддзі, замежныя трэнеры, спартсмены альбо амерыканскія балельшчыкі нечым «нагадзілі» расейцам.

**Аляксей СТАЎСКІ**



# Еўрапейцы купяць «Балтыку»



Брытанская півварная кампанія *Scottish & Newcastle PLC* – півавар №2 у Еўропе пасля *Heineken*'а – пагадзілася купіць фінскую *Hartwall* за 1,2 млрд. фунтаў (1,72 млрд. долараў).

*Scottish & Newcastle* паведаміла, што, купіўшы фінскага вытворцу піва, яна зойме вядучую пазіцыю на рынках піва сямі еўрапейскіх краін, а штогадовы аб'ём яе продажаў дасягне 4,5 млрд. фунтаў. Сярод вядучых брэндаў гэтай кампаніі – *Newcastle Brown* і *Kronenbourg*, фінскае *Lapin Culta* і расійская «*Балтика*»: апошняя – лідэр у Расіі і Беларусі і трэці брэнд у Еўропе.

Апрача ўласнага бізнесу ў Фінляндыі, *Hartwall* валодае 50% акцыяў *Baltic Beverages Holding* (*BBH*), які і выпускае славутую «Балтыку».

Высокія паказчыкі *BBH* у 2001 годзе прывялі да росту даходаў *Hartwall* на 32% – да 808 млн. еўра (703,4 млн. долараў), адзначае *Wall Street Journal*, чый матэрыял публікуе «*Инопресса*». Чысты прыбытак вырас на 81% – да 93 млн. еўра, але яшчэ больш выраслі даўгі *Hartwall*, якая ў выніку мусіла пагадзіцца на зліццё.

*Scottish & Newcastle* паведаміла, што летась тэмпы росту расійскага рынку піва склалі 18%, і што хутчэй за ўсё рост будзе працягвацца ў сувязі з адносна нізкім узроўнем спажывання ў разліку на душу насельніцтва.

Мяркуецца, што завяршыцца здзелка ўлетку: пасля праверкі фінансавага стану фінскага канцэрну, разгляду зліцця з антыманапольных пазіцыяў у ЕС і зацвярджэння дакументу агульным сходам акцыянераў.

**Аддзел інфармацыі**

# Узброены напад на ЗБС

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

На вачах у галоўнага рэдактара злачынцы парэзалі на кавалкі першы нумар газеты суполкі ЗБС Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэту імя М.Танка «Танкіст», прыгразіўшы зрабіць тое самае з людзьмі. Прыкладна праз 20 хвілінаў здзекаў рабаўнікі знеслі камп'ютэр з маніторам і калонкамі, мадэм, куртку намесніцы старшыні Рады ЗБС Вольгі Кузьміч з пашпартам, ключамі, грашыма і мабільным тэлефонам. Перад сыходам яны заявілі, што выконвалі загад і што за працу ім заплацілі, раілі не звяртацца ў міліцыю, бо «будзе яшчэ горш».

Знайшліся сведкі таго, як двое мужчын, адзін з якіх быў у масцы, са скрыняй ад камп'ютэра ішлі спачатку па вуліцы Дарашэвіча, а пасля па Якуба Коласа. Трэба зазначыць, што насупраць сядзібы ЗБС знаходзіцца будынак амбасады Латвіі і Эстоніі, а таксама выканкам Савецкага раёну Мінску, якія добра ахоўваюцца, непадалёку размешчаны раённы аддзел міліцыі, а ў кірунку, па якім рухаліся злачынцы – камітэт фінансавых расследаванняў, супрацоўнікі якога неадназарозова ладзілі раптоўныя праверкі ў сядзібе Задзіночання беларускіх студэнтаў. Сябры ЗБС адразу ж затэлефанавалі ў міліцыю. Прыбыло блізу трыццаці чалавек розных чыноў і спецыяльнасцяў, фатаграфавалі ўсе закуткі сядзібы, апытвалі пацярпелых і суседзяў, разам і пасобку, абсыпалі ўсё металічным парашком для знясця адбіткаў пальцаў, дзякуючы якому цяпер не працуе той адзіны камп'ютэр, які застаўся. Агляд цягнуўся да 24 гадзінаў ночы, пасля чаго чатырох чалавек забралі для допыту ў пастарунак. Допыт цягнуўся да 4 гадзіны раніцы, пасля чаго ім загадалі вярнуцца ў 15.00 для працягу гаворкі.

**Рада ЗБС**

# Хто і на што спадзяецца?

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Шмат хто зназіральнікаў звярнуў увагу і на пагардлівы тон выказванняў, якія Лукашэнка дазволіў сабе на адрас «нейкіх там дэпутатаў» парламентаў Германіі, Швецыі і Латвіі. Гаворка ішла пра нядаўні візіт у Мінск дэлегацыі Спецыяльнай рабочай групы ПА АБСЕ па Беларусі на чале з дэпутатам бундэстагу Утай Цапф. Аказваецца, па словах Лукашэнкі, вакол гэтага візіту спрабавалі ўзняць лішні ажыятаж. Трэба думаць, самому правіцелю размаўляць з пасланцамі АБСЕ не было пра што. Дарэчы, іх настойлівую просьбу акрэдытаваць да венскага паседжання Сталага камітэту ПА АБСЕ новага кіраўніка Кансультацыйна-назіральнай групы АБСЕ ў Беларусі афіцыйны Мінск працягвае ігнараваць. Першым вынікам такіх паводзінаў можна лічыць тое, што ў Вену прадстаўнікоў ніжняй палаты Нацыянальнага сходу Беларусі пакуль так і не запрасілі. У адрозненне ад прадстаўнікоў беларускай апазіцыі.

Калі раней дэманстрацыяй жорсткіх адносін да сусветнай супольнасці звычайна адзначаўся сам Лукашэнка і ў пэўнай ступені галава МЗСу Міхаіл Хвастоў, то апошнім часам да такіх апанентаў сусветнай супольнасці далучыўся і прадстаўнік Беларусі ў Брусэлі, пасол Сяргей Мартынаў. Кажуць, падчас сваіх нядаўніх выступаў на міжнародных канферэнцыях у Германіі былы першы намеснік міністра замежных справаў Беларусі, які займаецца цяпер і пытаннямі стасункаў з Еўрасаюзам, прадэманстраваў такую непрымірымую пазіцыю, што льга казаць пра з'яўленне ў міжнароднай практыцы іншай, лукашэнкаўскай дыпламатыі. Яе азы ўжо пяць гадоў беспаспяхова спрабуюць зразумець у еўрапейскіх сталіцах. Незразумелым для многіх засталося, на якое разуменне спадзяваўся дасведчаны дыпламат Мартынаў, паказаўшы сябе перад прысутнымі ў відавочна адыёзным выглядзе. А што да самога народу Беларусі, то плён такой дэмакратыі ён усё больш пачынае адчуваць на сабе. У тым ліку і ў псіхалагічным плане, калі беларускіх грамадзян успрымаюць у Еўропе як нейкіх марсіян, прыгнечаных сваім уладаром.

У сувязі з узмацненнем негатыўных настрояў, як мяркуюць эксперты, проста смеху вартымі выглядаюць дэкларацыі пра сяброўства Беларусі ў Сусветнай гандлёвай арганізацыі (СГА). Маўляў, праводзіцца пэўная праца, якая дазволіць Беларусі ў найбліжэйшай будучыні стаць сябрам СГА. Выказваецца нават думка, што ёсць магчымасць зрабіць гэта разам з братняй Расіяй.

Варта нагадаць кароткую гісторыю гэтага пытання. Яшчэ колькі гадоў назад на паперы была зафіксавана салідарная пазіцыя краін – сяброў Мытнага саюзу СНД, які пераўтварыўся ў Еўразійскую эканамічную супольнасць. Тады было ўмоўлена ісці ў СГА разам. Але, як вядома, Кіргізія трапіла туды самастойна. Тагачасны віцэ-прэм'ер Васіль Далгалёў нават публічна пагражаў кіргізам выключэннем з гэтага саюзу. Пазней Далгалёва апусцілі да рангу брэсцкага губернатара. А братняя Расія пачала самастойныя перамовы з СГА. І ёсць вялікія сумненні, што яна прывядзе туды на прычэпе саюзную Беларусь.

У знешнепалітычным ведамстве наконт перспектываў уступу ў СГА проста дэманструюць казённы дзяжурны аптымізм. Дзіўна, як пры гэтым не нагадваюць пра адну будучую імпрэзу. Мяркуецца, што ў верасні Лукашэнка зробіць вояж у Афрыку. У далёкім Йаганесбургу (ПАР) ён возьме ўдзел у міжнароднай канферэнцыі краін з устойлівым эканамічным развіццём. Акрамя нафталіннага Руху недалучэння, Беларусь, аказваецца, залічваюць яшчэ і да такой групы дзяржаваў. Што ж, мабыць, з беларускім эканамічным досведам наспела неабходнасць пазнаёміць і Афрыку. Але то будзе ўвосень. А вось увесну чакаецца маштабная міграцыя беларускіх паслоў.

Сярод новых паслоў з'явіцца яшчэ адна жанчына. Ужо практычна вырашана пытанне аб прызначэнні новага пасла ў Турцыю. Ім стане цяперашні намеснік начальніка Упраўлення гуманітарнага супрацоўніцтва МЗС Беларусі Наталля Жэлевіч. Трэба зазначыць, што Турцыя была першай краінай, якая афіцыйна прызнала суверэнную Беларусь. І яна застаецца адзінаю краінаю *NATO*, якая цярпліва і роўна развівае разнастайныя двухбаковыя стасункі з Беларуссю. Цяперашняе кіраўніцтва Беларусі спадзяецца, што, насуперак прэсінгу Еўрасаюзу і іншых структур, Анкара прадоўжыць сваю адметную палітыку ў дачыненні да Мінску. Прынамсі, перад новым беларускім паслом у Турцыі задачы стаяць такія і ставіцца задачы. А што да другіх беларускіх жанчын, дык яны ўжо ачольваюць дыпламатычныя місіі ў Канадзе і ў Казахстане. І пакуль што ў Італіі.

Па некаторых звестках, многія паслы, якія ад'язджаюць дадому, спадзяюцца, што будуць працаўладкаваны. Аднак, да прыкладу, інфармацыя пра тое, што цяперашні пасол Беларусі ў Анкары Мікалай Ляпешка стане першым намеснікам міністра замежных справаў, так і не пацвердзілася. Ім стаў вучоны палкоўнік Васіль Пугачоў, які некалі займаўся ў міністэрстве абароны пытаннямі разазбраення і навукова-даследчымі, доследна-канструктарскімі распрацоўкамі (*НИОКР*). Цяпер Ляпешку прарочаць пасаду пасла па асаблівых даручэннях. Пэўную цікавасць можа ўяўляць далейшы кар'ерны лёс экс-кіраўніка МЗСу, пасла ў Японіі Пятра Краўчанкі. У Мінску яго бачыць не хочуць. А другі раз стаць адкрытым апазіцыянерам не хоча ён. Не выключана, што яго прымусяць пакінуць МЗС, перамясціўшы на іншую дзяржаўную службу. Па некаторых прыкметах, не зусім ясны і далейшы лёс другога экс-кіраўніка МЗСу Урала Латыпава. Цяперашняму кіраўніку прэзідэнцкай Адміністрацыі прарочаць месца пасла то ў Парыжы, то ў Вашынгтоне. Як мяркуюць некаторыя эксперты, у выпадку сыходу Латыпава з найбліжэйшага атачэння Лукашэнкі пачнецца самы непрадказальны этап ісавання правячага рэжыму ў Беларусі. Варта нагадаць, што якраз Латыпаву кіраўнік дэлегацыі ПА АБСЕ Ута Цапф наўпрост сказала пра магчымыя наступствы працягу палітыкі, якую аднаасобна праводзіць Лукашэнка. Беларусь, размешчаную ў цэнтры Еўропы, чакае практычная канфрантацыя з усімі еўраатлантычнымі структурамі. Можа, кіраўнік Адміністрацыі выканаў ролю ганца з кепскай весткаю?

**Раман ЯКАЎЛЕЎСКІ**

# Нечаканы візіт

16 лютага Мінск з 5-гадзінным візітам наведала дэлегацыя Палаты прадстаўнікоў Кангрэсу ЗША ў складзе Джэймса Сэкстана (кіраўнік дэлегацыі, кангрэсмен з 1984 году, рэспубліканец, абраны ад штату Нью-Джэрсі), Рональда Льюіса (кангрэсмен з 1994 году, рэспубліканец, абраны ад штату Кентукі) і Бернарда Сандэрса (незалежны кангрэсмен з 1990 году ад штату Вермонт). Мэта візіту – сустрэча з кіраўніцтвам Беларусі ў сувязі з публікацыямі ў сродках масавай інфармацыі пра продаж краінай зброі дзяржавам, што падтрымліваюць тэрарызм. Джэймс Сэкстан зрабіў заяву для прэсы: «Сёння мы з кангрэсменамі Сандэрсам і Льюісам наведалі Беларусь, каб выказаць сваю глыбокую заклапочанасць з прычыны шматлікіх паведамленняў з розных вартых даверу крыніц (у тым ліку СМІ і іншых афіцыйных крыніц) пра тое, што Беларусь удзельнічае ў гандлі зброяй з дзяржавамі і асобамі, якія падтрымліваюць тэрарызм, і, магчыма, у ваеннай падрыхтоўцы асобаў, звязаных з гэтымі дзяржавамі альбо групамі. Сёння мы абмяркоўвалі гэтую праблему з міністрам замежных справаў Хвастовым, міністрам абароны Мальцавым і дзяржсакратаром Савету бяспекі Нявыгласам. Падчас сустрэчы з гэтымі высокімі беларускімі афіцыйнымі асобамі мы як прадстаўнікі Кангрэсу ЗША заявілі аб тым, што вельмі сур'ёзна ўспрымаем усе паведамленні аб гандлі зброяй альбо сувязях з дзяржавамі і арганізацыямі, якія падтрымліваюць тэрарызм. Паколькі Беларусь – адзін з вядучых пастаўшчыкоў зброі на сусветны рынак, мы заклікалі яе афіцыйных асобаў зрабіць захады дзеля таго, каб беларуская сістэма гандлю зброяй, ваеннай падрыхтоўкі, а таксама яе фінансаванне сталі празрыстымі. Гэта будзе гарантаваць, што прададзеная зброя не пастаўляецца тэрарыстам і не трапляе ў іх рукі іншым шляхам. Беларускія афіцыйныя асобы, з якімі ў нас прайшлі сустрэчы, выказалі сваю гатоўнасць удзельнічаць у стварэнні такога механізму, які б дазволіў ажыццяўляць кантроль за гандлем зброяй ва ўсім свеце. Стварэнне такога механізму праверкі будзе захадам, які дазволіць зрабіць крок наперад на шляху нармалізацыі адносінаў Беларусі і ЗША».

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

# Хто дасць грошы?

*На мінулым тыдні ўрад Беларусі пры ўдзеле старшыні Нацбанку П.Пракаповіча, пад кіраўніцтвам спадара Лукашэнкі ды ў прысутнасці начальнікаў праваахоўных структураў абмяркоўвалі месца фінансавай сістэмы ў эканоміцы краіны, яе ролю ў прасоўванні эканомікі наперад і ўвогуле перспектывы беларускага фінансавага ды вытворчага капіталу.*

Гэтае-мерапрыемства паводле яго мэтаў, задач, складу удзельнікаў, а таксама больш чым сціплай палітычнай геаграфіі, якая абмяжоўваецца абшарам Мінскай кальцавой дарогі (а Магілёўская дый Гродзенская вобласці ў палітычным сэнсе знаходзяцца менавіта тут), можна смела назваць беларускім Давосам. «Знакавы» момант: у сапраўдным Давосе, нават калі яго паседжанне пераносіцца з Швейцарыі ў ЗША, прэзідэнты прыслухоўваюцца да банкіраў, а ў Мінску банкіры сядзяць у мяккіх крэслах, быццам бы на лаве падсудных. І ўважліва, з цікавасцю слухаюць «пракурора рэспублікі», бо памятаюць прыклад Т.Віннікавай, якую каманда «*с вещами – на выход*» заспела гэтаксама нечакана, як нямецкі напад – асабісты склад гарнізону Брэсцкай крэпасці. А яшчэ таму, што добра разумеюць: пакуль да іх прыйдзе аднекуль дапамога, пакуль галоўнаму памагатаму (як гэта вырашана зрабіць з маршалам Жукавым) паставяць помнік у Мінску, на іх магілках вырасце спелы лес, які нехта кшталту Ціцянкова спіліць і прадасць за мяжу за даляры.

Карацей, усё як звычайна, усё як у нашай «прэзідэнцкай» Беларусі, і было б гэта нецікава, калі б сп. Лукашэнка ўласцівым толькі яму манерам не выказаў дзве вельмі слушныя заўвагі. Па-першае, абвяргаючы чуткі пра тое, што ён накіраваў камерцыйным банкам адмысловы ліст з прапановай-патрабаваннем выдаць безнадзейныя крэдыты сельгаспрадпрыемствам на правядзенне штогадовай (гэта спецыфіка Беларусі, бо ў іншых краінах сеюць і збіраюць ураджай па некалькі разоў на год. – **К. С.**), выказаўся ў тым сэнсе, што вялікія грошы сельскай гаспадарцы непатрэбны, бо яна няздольна іх пераварыць.

Вось ён – момант ісціны! Так, на жаль, у жыцці бывае. Няўдзячныя дзеці, прыкладам, жывуць без клопату пра ўласны лёс, сталеюць, а гуляў не пакідаюць, аб прыбытках пад апекай старэючых бацькоў не дбаюць. Але аднойчы прыязджаюць у вёску на свежыну, па законныя «свіныя плечы», а бацька ў бальніцы. А доктарка кажа, што не патрэбны ўжо яму ні апельсіны, ні мандарыны, ні курыны ваш булён. Бо старому ўжо і свежае паветра шкодзіць.




А голая, як казаў вядомы літаратурны персанаж – «сярмяжная», праўда ў тым, што за сем гадоў з сельскай гаспадаркі, з калгасаў і саўгасаў, з вёскі ўлада, як павук з мухі, высмактала ўсе жыццёвыя сокі, пакінуўшы ад іх адно высахлае, звонку падобнае да «цакатухі» смецце. Кажуць, улады зараз прымерваюцца, як бы гэта ліцэнзаваннем сацыялагічных апытанняў паставіць заслону для развіцця ў непажаданым накірунку грамадскай думкі пра яе. Але ж людзі ўсё выдатна бачаць і без сацыёлагаў. «Эксперты» ўвогуле вельмі паспешлівыя ў сваіх абагульненнях. Прыкладам, пішуць пра тое, што калгаснікі ў сваёй большасці скептычна ставяцца да перспектываў «сацыялістычнага» гаспадарання, але самастойна гаспадарыць на зямлі гатовы толькі адзінкі. Але ці ў гатоўнасці справа? Хіба тая ж Віннікава, ці Чыгір, ці хто іншы гатовы былі сядзець у турме? А прыйшлося, і сядзелі не горш за людзей. А Валеры Шчукін увогуле робіць з кожнае пасадкі натуральны перформанс.

Увогуле, пры ўсёй савецкай запраграмаванасці, беларусы здольныя рабіць імпрэзы. Той жа Лукашэнка (паабяцаў «Балтыцы» «Крыніцу», а зрабіў «дэфолт»), толькі лепшы сярод роўных. А ўзяць тыя ж падаткі, пра неабходнасць своечасова заплаціць якія з раніцы да вечара распавядаюць радыё ды БТ. Каму з тых, хто спрабуе нешта зарабіць, захочацца іх плаціць, пабачыўшы, што ў кожнай сельскай ашчадкасе (сёння – філіял Беларусбанку) на відным месцы ляжаць спісы людзей, якія не хочуць, бо не могуць плаціць за газ, электрычнасць, ваду ды іншыя камунальныя паслугі? А як іх плаціць, калі зарабіць няма дзе? Грошы ж з калена не выламіш.

Але давайце пра лепшае. Пра тое, аб чым нават не здагадваюцца правячыя «эліты». Шмат чаго яны (што цікава, самі збольшага ўчарашнія калгаснікі) прыдумалі, каб не дапусціць селяніна да зямлі. Але ўрэшце калгасны тлум сыходзіць. І селянін (не стануць жа Мясніковіч, Лукашэнка, Навіцкі, Зімоўскі ці Павел Якубовіч вольнымі аратымі) возьме сабе зямлі сам, колькі захоча і колькі зможа ўрабіць. Нават той, хто сёння ад ідыятызму сучаснага сельскага жыцця з раніцы ляжыць пад плотам. Устане і пойдзе за канём і плугам. У крайнасці жонка прымусіць, бо ў яе выйсця няма. Бо давялі народныя рупліўцы.

На гэтай жа нарадзе Лукашэнка выказаў слушную думку наконт таго, што ў сусветнай эканоміцы зараз шмат вольных грошай. Таму хай банкіры валакуць іх у Беларусь хоць з Расіі, хоць адкуль заўгодна. Праўда, у адным ён усё ж такі памыляецца: вольныя грошы ёсць, а вось лішніх няма ні ў кога. Памыляецца мо таму, што як эканаміст (так ён пра сябе сцвярджае) савецкай школы ён не зусім разумее сутнасць грошай як тавару, у колькасным сэнсе заўжды абмежаванага, а ў якасным – бязмежнага. Бо за грошы можна купіць усё. У тым ліку і «трубу», з якой корміцца ўся Вялікая Беларусь. З гэтае прычыны вольныя грошы заходніх эканомік (не толькі мультымільярдэраў кшталту Поля Гейтса, але і ўсяго не спітога ўшчэнт насельніцтва) трымаюцца ў вельмі (але не на 100%) надзейных банках, якія даюць крэдыты толькі вельмі надзейным кліентам. Беларусь, пастаўленая міжнароднымі экспертамі на перадапошняе месца па тэмпах руху да рынкавай эканомікі сярод усіх постсацыялістычных краін, да ліку такіх не адносіцца. Ну ёсць прэзідэнт, гатовы падпісацца пад любым, пажадана найбольшым крэдытам, але гэтага недастаткова.

Аднак пара ставіць кропку і рабіць нейкую там «мараль». Яна вельмі простая і, на жаль, вельмі непрыемная гэтай сваей прастатой. Бо не спраўдзіліся нічые надзеі, звязаныя з вынікамі прэзідэнцкіх выбараў (а як жа, галоўная падзея году!): ні пераможцы, ні пераможаныя не ведаюць адказу на сакраментальнае «Што рабіць?». А народ, які не разумее, што будуць рабіць менавіта з ім, усё больш чэша патыліцу: «Хто вінаваты?».

**Кастусь СКУРАТОВІЧ**

# Кавалак хлеба за кубак сырадою

Безграшовыя сельсаветы, калгасы і перапрацоўчыя заводы, што закупляюць у вясковага насельніцтва лішкі малака, неспадзявана патрапілі ў канкурэнцыю з гандлярамі з райспажыўсаюзаў. У вёсцы Рэчыца Камянецкага раёну тамтэйшы сельмаг спрабуе завабіць гаспадыняў зліваць ранішні сырадой у бідон пад прылаўкам. Аднак ахвотнікаў на гэта мала, бо кааператары таксама не плацяць на месцы, а прапануюць бартэр хлебам, селядцамі і іншым таварам, што заўжды тут каштуе даражэй, чым на гарадскім рынку з рук.

І ўсё ж прапанова кааператараў можа на нейкі час прыжыцца, бо з набліжэннем тэрмінаў пасяўной калгаснікам адмаўляюць у выплаце заробкаў. Калі верыць звесткам Брэсцкага аблсельгасхарчу, то за студзень-люты сума грашовага доўгу перад людзьмі павялічыцца на 6 мільярдаў рублёў. Таму, каб хоць гэтым папярэдзіць сацыяльную напружанасць, аблвыканкам дазволіў кааператарам аддаваць тавар у крэдыт пад закупы малака і адначасова адмяніў у сельскай мясцовасці бюджэтны 5-працэнтны падатак з продажу на ўсе тавары, акрамя вінна-гарэлачных і тытунёвых вырабаў.

**Мікола НЯЗЛОМНЫ**

ЭКСПРЭС

# Эканамічныя нататкі

## Алмазамі сыты не будзеш

Урэшце Міністэрства фінансаў пры падтрымцы розных ведамстваў падрыхтавала «доўгачаканы» праект канцэпцыі развіцця ў Беларусі алмазаапрацоўкі, праца над якім цягнулася каля году. Зараз дакумент перададзены розным дзяржструктурам для атрымання згоды. Ініцыятар распрацоўкі канцэпцыі – сам прэзідэнт краіны. Праект прадугледжвае шэраг мерапрыемстваў, мэтай якіх будзе: спрасціць парадак працы з алмазнай сыравінай, а таксама рэалізацыі брыльянтаў і іншых каштоўных камянёў. Эксперты сцвярджаюць, што прыняцце дадзенай канцэпцыі дазволіць значна павялічыць аб'ёмы перапрацоўкі алмазаў, а таксама створыць лепшыя ўмовы для зацікаўлення замежных інвестараў.

## Адменены некаторыя ліміты на спажывецкім рынку

У Беларусі чарговым указам прэзідэнта адменены абмежаванні на ўвоз і вываз спажывецкіх тавараў. Дакумент таксама адмяняе ліміты рэалізацыі тавараў, што дзейнічалі да гэтага часу. Дзяржаўныя інфармацыйныя сродкі паведамляюць, што змены былі абумоўлены стратай актуальнасці некаторых прававых актаў, якія рэгламентавалі абмежаванні на спажывецкім рынку рэспублікі. Гэтая «страта актуальнасці» адбывалася паралельна з узмацненнем кантролю над рынкам з боку органаў дзяржаўнага кіравання і са зменамі ў заканадаўстве, якое сёння, па звестках прэс-службы, у дастатковай меры дазваляе кантраляваць асноўныя працэсы на рынку і кіраваць імі.

## Звыш 6 млн. еўра за месяц

Звыш шасці мільёнаў еўра ўжо прадалі ўпаўнаважаныя банкі Беларусі за першы месяц абарачэння адзінай еўрапейскай валюты. Еўра можна было набыць у абменных пунктах і касах «Белзнешэканамбанку», «Пріорбанку», «Белпрамбудбанку», «Тэхнабанку» і «Джэмбанку». Як паведамілі ва ўпраўленні інфармацыі Нацбанку, аперацыі па куплі і продажы еўра цяпер праводзяць усе ўпаўнаважаныя банкі краіны. Трэба адзначыць і тое, што калі на пачатак студзеня сярэднядзённая рэалізацыя складала крыху больш за 100 тысяч еўра, то ў канцы месяца яна павялічылася больш як у тры разы.

**Андрэй КАРПОВІЧ**

# У Брэсце палякі перадалі ўладу ўкраінцам

14 лютага ў Брэсце адкрытым галасаваннем абралі новыя органы кіравання «Еўрарэгіёну «Буг» (ЕРБ), у склад якога ўваходзяць Валынская вобласць Украіны, Брэсцкая – Беларусі і Люблінскае ваяводства Польшчы. У адпаведнасці з прынцыпам ратацыі пасада старшыні рады ЕРБ перайшла ад Марэка Тэнча (Польшча) да Васіля Дзмітрука (Украіна). Берасцейцам на месцы давялося замяніць сваіх прадстаўнікоў у чатырох рабочых групах і дваіх – у радзе.

## Спазніліся адразу і надоўга

Хоць у Брэсце адбывалася 9-я па ліку сустрэча кіраўніцтва транспамежнага аб'яднання, але для гаспадароў яна была толькі чацвёртая: Брэсцкую вобласць афіцыйна прынялі ў «Еўрарэгіён «Буг» апошняй, пры пашырэнні ягонай тэрыторыі ў траўні 1998 году. А за тры гады перад гэтым ЕРБ быў створаны ў выніку пагаднення, падпісанага ў Луцку (на Украіне) ваяводамі хэлмскім, люблінскім, тарнабжэгскім і замойскім, а таксама старшынёй Валынскага абласнога Савету. У 2000 годзе да іх далучыліся Сокальскі і Жолкаўскі раёны Львоўскай вобласці. Цяпер еўрарэгіён займае 78 тысяч квадратных кіламетраў, у ім жывуць амаль 4 мільёны грамадзянаў трох суседніх краінаў.

Дарэчы, першы на старым кантыненце еўрарэгіён аб'яднаўся ў сярэдзіне 1970-х з нагоды прыроднага катаклізму. З-за вялікага ляснога пажару ў Нідэрландах галандцы папрасілі дапамогі ў ФРГ. Немцы аператыўна пад'ехалі, але з-за таго, што шлангі іхніх пажарных машынаў не адпавядалі памерам галандскіх гідрантаў, дапамога аказалася мінімальнаю. Тады і ўзнікла думка, што суседзі мусяць супрацоўнічаць на ўзроўні практычных дзеянняў, пераважна ў тэрытарыяльным добраўпарадкаванні, экалогіі, адукацыі, ахове здароўя, культуры, спорце, бяспецы і ліквідацыі пагражальных становішчаў. Тэндэнцыя да гэтага няўхільная, і, прыкладам, у Польшчы з 1991 году на межах з Германіяй і Чэхіяй утварыліся 15 еўрарэгіёнаў.

## Мізэрная аддача ад вялікіх магчымасцяў

42 % ад усёй тэрыторыі «Еўрарэгіёну «Буг» – беларускія землі. 32,2 % – польскія. 25,8 % – украінскія. Геаграфічна на сутыку межаў зручна вызначаецца ніжняя паўночная частка, дзе размешчаныя пінскае, люблінскае і валынскае Палессе. Гэта тэрыторыя характарызуецца добра разгалінаванай рачной сеткай (Буг, Прыпяць, Стыр, Гарынь, Случ). Тут каля 100 азёраў, шмат лясоў, тарфянікаў і балотаў, якія ўяўляюць сабою апору для рэдкіх відаў жывёлаў, у тым ліку вадзяной і балотнай дзічыны, а таксама рэліктавых відаў тарфяной расліннасці. Аднак еўрапейскія турфірмы не атрымліваюць дазволу нават на распрацоўку лодачных маршрутаў па водных артэрыях беларускага Палесся. А ў партовых гарадах Гомелі, Мазыры, Пінску і Брэсце гніюць ад карозіі дзесяткі буксірных цеплаходаў, бо пры крызісным стане беларускай эканомікі апынуліся на дне нават спадзяванні аднавіць рачны рух ад Чорнага мора да Балтыйскага.

Аб прыродных перавагах «Еўрарэгіёну «Буг» сведчыць наяўнасць на ягонай тэрыторыі чатырох нацыянальных паркаў: Белавежскай пушчы (Беларусь, плошча 87,6 тыс. га); Палескага (Польшча, плошча 9,6 тыс. га); Разтачанскага (Польшча, плошча 7,9 тыс. га); Шацкага (Украіна, плошча 82,5 тыс. га) Па маштабах прасторы і тут Брэстчына наперадзе суседзяў. Але дастаткова наведаць польскі бок, каб зразумець, што Беларусь не дбае толкам пра развіццё турыстычнага бізнесу. Адзін дзяржгатэль на 30 месцаў у нас і на 300 прыватных месцаў у Польшчы; усяго некалькі даляраў выручкі на аднаго замежнага наведніка на беларускай тэрыторыі і ў дзесяткі разоў больш на польскім баку. Пры малой колькасці наведнікаў у Нацыянальным парку Беларусі драпежніцкая сістэма аплаты за паслугі і начлег, затое няма нават капеечнага значка на памяць, не кажучы ўжо пра больш-менш цікавыя сувеніры, мапу ці буклеты. Калючы сталінскі дрот і ўзброеныя заставы памежнікаў не дазваляюць прасоўваць на зблiжэнне працу па стварэнні транспамежнага біясфернага запаведніка.

## Чарга для сваіх, каб у іншых выцыганіць

На канферэнцыі краінаў ЕС на выспах Корфу і Крыце ў 1994 годзе вырашана пашырыць будаўніцтва сеткі трансеўрапейскіх калідораў у бок Расіі і ад Балтыйскага мора да Чорнага. Чатыры найважнейшыя праекты павінны былі прайсці праз Беларусь блізу Брэсту: чыгуначная і шасэйная магістралі «Мадрыд—Берлін—Мінск—Масква», два газаправоды з паўвыспы Ямал у Германію, лінія звышмагутнай ЛЭП у рамках праекту «Балтыйскае кальцо» (з Расіі ў Германію) і лінія оптыка-валаконнай сувязі. Праз шэсць поўных гадоў не Беларусь, а Польшча змагла, як той казаў, пацягнуць з кішэні аб'яўленых інвестараў вялікі капітал на ўзмацненне сваіх транзітных функцый паміж Усходам і Захадам. Параўнайце: шчыльнасць дарожнай сеткі ў Люблінскім ваяводстве – 71,5 кіламетраў на 100 квадратных кіламетраў і выразна горшая на Брэстчыне – усяго 26,8 км /100 кв.км. Падобны малюнак са шчыльнасцю чыгуначнай сеткі, якая складае 4,4 км/100 кв.км плошчы ў Люблінскім ваяводстве і 3,3 км – у Брэсцкай вобласці. Каб хутчэй увайсці ў цывілізаваную Еўропу, Польшча актыўна праводзіць рэканструкцыю і магутнае развіццё інфраструктуры на памежных з Беларуссю пераходах «Кукурыкі-Казловічы», «Варшаўскі мост», «Славатычы-Дамачава». Беларускі бок быццам бы таксама не бяздзейнічае. Але калі ў польскіх «Кукурыках» ужо ёсць інфраструктура для прапуску 4 000 «вялікагрузных» аўтамабіляў у суткі, то ў «Казловічах» – толькі для 700. Напярэдадні паседжання рады «Еўрарэгіёну «Буг» і па яго калектыўнай просьбе Брэст наведалі эксперты Еўрапейскай камісіі. Намеснік міністра замежных справаў Беларусі Аляксандр Міхневіч і першы намеснік старшыні Дзяржаўнага мытнага камітэту Іван Авін арганізавалі для гасцей паездку на памежны пераход «Дамачава», каб увачавідкі прадэманстраваць ягоную тэхнічную адсталасць. Зноў прасілі фінансавай падтрымкі, на што адміністратар па пытаннях транспамежнага супрацоўніцтва і развіцця памежнай інфраструктуры краінаў СНД Генеральнага дырэктарату Еўракамісіі Вольфганг Берандт не адмовіў, хоць і агаварыўся, што адбудзецца гэта не раней за 2004 год.

**Галіна БАРАВАЯ**

# Знайсці лекі ад страху

*Гомельскаму медычнаму інстытуту пайшоў дванаццаты год. Ён ствараўся з улікам «чарнобыльскай» спецыфікі рэгіёну. Пра тое, як яна адбіваецца на навучальным працэсе і на навуковых інтарэсах інстытуту, карэспандэнтка НАШАЙ СВАБОДЫ гутарыла з рэктарам ГоДзМІ, доктарам медыцынскіх навук прафесарам Сяргеем Жаваранкам.*

***— Сёння Гомельскі медычны інстытут – гэта...***

— 195 высокакваліфікаваных прафесараў, дактароў і кандыдатаў медыцынскіх навук, дацэнтаў, асістэнтаў. У інстытуце навучаюцца паўтары тысячы студэнтаў. Мы можам ганарыцца тым, што ў нас на сто студэнтаў прыпадае па адным доктары медыцынскіх навук. ГоДзМІ – гэта чатыры факультэты: лячэбна-прафілактычны, медыка-дыягнастычны, медыка-прафілактычны і замежны. Апошні, поруч з падрыхтоўчым аддзяленнем, дазваляе нам зарабляць пазабюджэтныя сродкі. У наступным навучальным годзе адкрыем педыятрычны факультэт, што забяспечыць медыкамі гэтай дэфіцытнай спецыяльнасці Гомельскую і Магілёўскую вобласці. У маладой навучальнай установы заўсёды багата праблем. Толькі на пачатку гэтага навучальнага году мы цалкам забяспечылі нашых студэнтаў падручнікамі. Дагэтуль па асобных спецыяльнасцях былі суадносіны: адзін падручнік на шэсць студэнтаў. За апошнія два гады мы набылі больш за 50 сучасных камп'ютэраў; з іх 20, а таксама магутны сервер і іншае тэлекамунікацыйнае абсталяванне атрымалі па міжнародным праекце «Тэлемедыцына» за кошт японскага фонду Сасакава. Праект «Тэлемедыцына» прадугледжвае падтрыманне сувязі праз інтэрнэт з Беларускім медычным універсітэтам, з калегамі з Масквы, універсітэтамі ў гарадах Нагасакі і Абердыне. Для нашага адносна невялікага перыферыйнага інстытуту гэта вялікі скачок да сучасных інфармацыйных тэхналогій.

***— Японцы маюць найбольшы досвед жыцця пасля радыяцыі. Ці ахвотна яны дзеляцца сваімі ведамі?***

— Яны, безумоўна, валодаюць найбольшымі ведамі ў галіне радыяцыйнай медыцыны і абсалютна нічога не хаваюць! Літаральна днямі ў інстытуце было падпісана пагадненне пра супрацоўніцтва ў навуковых даследаваннях і навучанні студэнтаў з універсітэтам Нагасакі. У Гомель прыязджалі прафесары Ямасіта і Такамура з групаю супрацоўнікаў і студэнтаў. Такое супрацоўніцтва будзе надзвычай карысным для нашага інстытуту. У Нагасакі ўжо прайшлі стажыроўку двое нашых супрацоўнікаў. Плануецца такія стажыроўкі пашырыць.

***— Мне здаецца, калі людзі кажуць пра радыяцыю, то дамінуюць крайнія думкі. Першая: усё прайшло, няма чаго баяцца. Другая: стала яшчэ горш. А што кажа навука?***

— Асноўныя дозы людзі атрымалі ў 1986 годзе ад ізатопаў ёду. Цяпер пільная ўвага медыкаў павінна быць скіравана найперш на тых, каму на момант катастрофы было ад году да пяці гадоў, і на тых, хто быў у матчыным чэраве. Гэта – група найбольшай рызыкі што да захворванняў шчытападобнай залозы. Але своечасова разгорнутая сетка дадатковых дыягнастычных і лячэбных структур і мерапрыемстваў дазволіла арганізаваць у рэгіёне раннюю дыягностыку і сучаснае лячэнне ўсіх пацыентаў з захворваннямі шчытападобнай залозы, як звязаных, так і не звязаных з дадатковым апраменьваннем у выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Есць меркаванні, што ў жанчын, якія кармілі дзяцей грудзямі ў той жа перыяд, могуць быць зарэгістраваны дадатковыя выпадкі раку малочнай залозы. Але гэта толькі гіпотэза, праверка якой патрабуе канцэнтрацыі намаганняў як медыкаў, так і самога насельніцтва. Важны і такі фактар: наколькі сама жанчына сочыць за сваім здароўем. Калі гараджанка ўсё ж болей інфармаваная пра розныя хваробы і ў яе да таго ж больш магчымасцяў, каб наведваць доктара, то ў глыбінцы ўсё гэта праблематычна. На жаль, часта нават вельмі адукаваныя пацыенткі, нават самі медыкі звяртаюцца да доктара на позніх стадыях, калі ўжо нават вельмі складанае лячэнне не заўсёды эфектыўнае.

Таксама выклікае неспакой рост колькасці ракавых захворванняў страваводу, тоўстай кішкі, мачавога пузыра. Але казаць пра іх узаемасувязь з наступствамі катастрофы на ЧАЭС пакуль рана. Медыцына павінна быць доказнай.

Нельга пагадзіцца, што ўсё прайшло. Вядома, цяпер няма такога знешняга апраменьвання, як у 1986 годзе. Але радыенукліды цэзію ўсё яшчэ трапляюць у арганізм чалавека праз ежу. Асабліва калі сам чалавек не захоўвае правілаў бяспекі. Разумееце, калі нават частка сельскіх жыхароў забяспечана сепаратарамі, а яны імі не карыстаюцца і спажываюць бруднае малако, то медыцына бясСільная. Гэта ж тычыцца грыбоў, ягад, дзічыны. Апошняя – самая небяспечная. А вось рыба трапляецца розная: і чыстая, і брудная. У праточных вадаёмах чыстая. Я сам рыбак...

***— Сяргей Уладзіміравіч, жыццёвыя назіранні паказваюць, што чым вышэйшы сацыяльны і адукацыйны статус, тым больш чалавек баіцца радыяцыі, а вы кажаце, што ловіце тут рыбу...***

— У пытанні ўздзеяння малых дозаў радыяцыі на чалавека вельмі шмат белых плямаў. Не ўсё, што добра даследавана на жывёлах, асабліва аддаленыя наступствы, можна пераносіць на чалавека. Вывучэннем уплыву радыяцыі я займаўся з моманту аварыі на Чарнобыльскай АЭС, працоўны дырэктарам філіялу інстытуту радыяцыйнай медыцыны. На самым пачатку сваёй працы прайшоў стажыроўку ў Хірасіме. Чым больш мінае часу пасля 26 красавіка 1986 году, тым далей людзі закідаюць дазіметры і не зважаюць на рэкамендацыі па радыяцыйным кантролі прадуктаў, атрыманых на забруджаных тэрыторыях. На пабытовым узроўні гэта якраз так. Санітарна-асветная праца па-ранейшаму застаецца важнай і актуальнай. Людзям трэба тлумачыць, што брудныя прадукты асабліва небяспечныя для дзяцей. У той жа час заўважу, што калі сачыць за сваім здароўем, пры ўзмоцненым медычным забеспячэнні рэальна павялічыць сярэднюю працягласць жыцця на пяць гадоў і тым самым нейтралізаваць самыя змрочныя прагнозы, што і было зроблена ў Японіі. Зрэшты, гэта можна аднесці і да жыхароў іншых рэгіёнаў.

***— Ці дастатковую матэрыяльную базу мае абласная ахова здароўя, каб справіцца з чарнобыльскімі праблемамі?***

— Матэрыяльная база клінік гораду Гомелю (яны ж клінічныя базы нашага інстытуту) добрая. Калі параўнаць са сталіцай, то мы – на другім месцы. У свой час «пад Чарнобыль» былі атрыманы немалыя сродкі на набыццё абсталявання. Але навука не стаіць на месцы, і частку абсталявання ўжо хацелася б замяніць на больш сучаснае. Родзіць аптымізм зацікаўленае стаўленне мясцовай улады да праблемаў аховы здароўя. Мы працуем у шчыльным кантакце з абласным камітэтам па ахове здароўя.

***— Пасля катастрофы на ЧАЭС з'явілася прыказка, што паміраюць не ад радыяцыі, а ад інфармацыі. Ці захавала яна сваю актуальнасць?***

— Праўдзівая інфармацыя павінна спрыяць нармальнаму жыццю. Скажоная інфармацыя родзіць страх. На жаль, страх не знік. І доктар мусіць вырашаць дзве праблемы: вылечыць захворванне і пазбавіць чалавека ад псіхалагічных праблем. Гэта ненармальна, калі дзеўчыну з Гомелю не хочуць браць замуж толькі з-за месца жыхарства. Невуцтва заганяе людзей у псіхалагічны тупік. І мы мусім знайсці на гэта лекі.

***— Добрай традыцыяй у вашым інстытуце стала правядзенне Дзён навукі. Гэта сапраўднае свята ў час вакацый. Чым радуюць выкладчыкі і студэнты?***

— У нас шмат таленавітых студэнтаў, якія актыўна займаюцца навукай. Сёлета наш студэнт Ігар Седляроў атрымаў прэмію Нацыянальнай акадэміі навук. Яго мы накіроўваем на чатырохгадовую стажыроўку ў Японію дзеля авалодання метадамі малекулярнай біялогіі. Увогуле па колькасці навуковых вынаходак Гомельскі мединстытут займае адно з вядучых месцаў, а па фінансаванні навуковых даследаванняў, нягледзячы на вялікія зрухі ў апошнія гады, – мы ў самым канцы. Першае, бясспрэчна, цешыць, другое – трэба выпраўляць, бо толькі на энтузіязме навука развівацца не можа.

Аксана ЯНОЎСКАЯ

# ААН пра «чарнобыль» у Беларусі

*Чарнобыльская місія ААН абнародавала свой даклад аб праблемах наступстваў аварыі на ЧАЭС для Беларусі. Яшчэ да яго выстаўлення на суд грамадскасці вынікі гэтых даследаванняў успрымаліся з вялікім скептыцызмам. Прычым, як міжнароднай супольнасцю, так і ў самой Беларусі. Адзін бок падрыхтаваўся да згушчэння фарбаў у высновах місіі, другі, маючы вопыт папярэдніх трох місіяў, наадварот, да спрашчэння праблемы дзеля абгрунтавання скарачэння міжнароднай падтрымкі.*

Сам кіраўнік групы экспертаў Патрык Грэй на прэзентацыі справаздачы ААН заявіў, што «праблемы, што існуюць, аказаліся больш складаныя, чым чакалі ўдзельнікі місіі». Яны ў сваім дакладзе прызналі, што на тэрыторыі Беларусі, Украіны і Расіі маюцца аграмадныя гуманітарныя наступствы аварыі, галоўным чынам – эканамічныя, медычныя і сацыяльныя.

Міжнародныя эксперты самі наведвалі пацярпелыя раёны і сустракаліся з людзьмі, якія вымушаныя там жыць і працаваць. У справаздачы адзначана, што ўзровень жыцця людзей у такіх раёнах вельмі нізкі. Гэта непасрэдна адбіваецца на стане здароўя насельніцтва, бо людзі са сваімі даходамі не могуць сабе дазволіць правільна харчавацца. Сітуацыю пагаршае паўсюдная алкагалізацыя, злоўжыванне тытунем і псіхасацыяльныя наступствы аварыі.

Па міжнародных дадзеных, за мінулыя 15 гадоў рак шчытападобнай залозы выяўлены ў 2 тысяч юнакоў, якія трапілі пад радыеактыўнае ўздзеянне ў 1986 годзе. Па сціплых падліках, найбліжэйшымі гадамі колькасць такіх ахвяраў радыяцыі павялічыцца да 8-10 тысячаў.

У сваіх высновах эксперты крытыкуюць палітыку, якая праводзілася ўсе 15 гадоў пасля аварыі на гэтых тэрыторыях урадамі трох краінаў і дабрачыннымі арганізацыямі. Гаворка ідзе пра выплаты дапамогі вялікай колькасці людзей не суадносна з фактычным пагаршэннем стану іхнага здароўя, выключэнне забруджаных раёнаў з эканамічнага жыцця краіны, слабое медычнае забеспячэнне гэтых раёнаў і г.д. ААН гэта называе пасіўнай гуманітарнай дапамогай.

Калі такую палітыку пакінуць нязменнай, то гэта можа прывесці да спаду ўзроўню жыцця людзей, яны не змогуць ужо дапамагчы нават самі сабе. Разам з тым міжнародная зацікаўленасць у дапамозе будзе падаць і далей. За апошнія 4 гады ААН двойчы звярталася да міжнароднай супольнасці з заклікам дапамагчы ахвярам Чарнобыльскай аварыі, але іхнім вынікам сталіся толькі сабраныя 2 мільёны даляраў, чаго для вырашэння «чарнобыльскіх» праблемаў замала.

ААН прапануе ўрадам трох дзяржаваў і міжнароднай супольнасці кіравацца прынцыпам садзейнічання пацярпелым, «захоўваючы па магчымасці ўзровень расходаў». Усе сродкі павінны сканцэнтравацца ў трох асноўных напрамках дзейнасці – эканамічным, медычным і сацыяльным.




Сістэму медычнага абслугоўвання эксперты раяць цалкам перабудаваць і павысіць якасць абслугоўвання малазабяспечаных жыхароў. У сферы сацыяльнай палітыкі, на іхнюю думку, варта засяродзіць сродкі менавіта на дапамозе тым, хто мае ў гэтым найбольшую патрэбу. Гэта жыхары забруджаных раёнаў, беспрацоўныя перасяленцы, хворыя і тыя, чыё здароўе знаходзіцца пад пагрозай. Эканоміку забруджаных раёнаў трэба пачынаць паступова аднаўляць праз стварэнне канкурэнтнай рыначнай эканомікі і дзелавога асяроддзя.

Паводле Ніла Бунэ, каардынатара прадстаўніцтва ААН у Беларусі, калі на дапамогу людзям сусветная супольнасць накіруе толькі 5-10% ад той сумы, што выдаткавалі на пабудову саркафага на чацвёртым энергаблоку ЧАЭС, гэтага ўжо будзе дастаткова, каб выправіць існую сітуацыю.

**Уладзімір ЦАЛКО, старшыня Камітэту па праблемах наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС пры Савеце міністраў РБ:**

Цалкам даклад ацэнены станоўча, хаця ў недзяржаўных арганізацыяў і міністэрстваў ёсць заўвагі. Адна з такіх заўваг – гэта вывад місіі аб тым, што праграмы Рэспублікі Беларусь, якія да гэтага накіроўвалі на пераадоленне наступстваў чарнобыльскага гора, неэфектыўныя, і яны прапануюць іх перагледзець. Тут я хацеў бы не пагадзіцца. Бо тымі заходамі мы вырашылі асноўную задачу: зберaглі насельніцтва, захавалі людзей, перасялілі і далі магчымасць жыць і працаваць. Гэта – галоўнае.

І другая заўвага: у дакладзе адзначаецца, што грамадскія сусветныя арганізацыі вельмі вялікі ўнёсак зрабілі на пераадоленне наступстваў аварыі. І нічога не сказана пра Беларусь, якая перыядычна ўкладала да 25% свайго нацыянальнага бюджэту. Мы ўдзячныя сусветнай супольнасці, якая выдаткоўвала да 50 мільёнаў даляраў на год. Калі памножыць гэта на 10 гадоў, то вы пабачыце, колькі давала сусветная супольнасць. А рэспубліка за апошнія 10 гадоў уклала прыблізна 12 мільярдаў даляраў.

**Уладзіслаў АСТАПЕНКА, міністар аховы здароўя РБ:**

У справаздачы пацверджана, па сутнасці, вядомая нам сітуацыя, калі не хапае спецыялістаў вузкага профілю ў сельскай мясцовасці для пацярпелага насельніцтва, і таксама нерацыянальна выкарыстоўваецца абсталяванне, у тым ліку пастаўленае нам у якасці гуманітарнай дапамогі. Над гэтымі праблемамі мы працуем, і гэта нашае тактычнае пытанне.

У стратэгічным плане місія адзначае вялікую розніцу ў магчымасцях прэстыжных клінік вялікіх гарадоў і медычнага забеспячэння невялікіх населеных пунктаў. Гэты вывад дае нам упэўненасць у правільнасці выбранага шляху па рэфармаванні сістэмы аховы здароўя.

Другі важны аспект – гэта падтрымка нашых спецыялістаў адносна погляду аб неэфектыўнасці вельмі стратных масавых прафілактычных аглядаў. Мы даўно аб гэтым казалі. Трэба працаваць з групамі рызыкі, да якіх у першую чаргу неабходна аднесці дзяцей.

Салідарны погляд з поглядам беларускіх спецыялістаў і адносна практычнай неэфектыўнасці вядзення разнастайных рэгістраў. Там ёсць вельмі добрая фраза: «Вядзенне рэгістраў не скароціць рызыкі захворванняў, толькі ў лепшым выпадку іх зарэгіструе».

Вельмі важнай праблемай з'яўляецца ўтрыманскае стаўленне да жыцця той катэгорыі насельніцтва, якое мы адносім да пацярпелай катэгорыі, у выніку правядзення ў нашай дзяржаве сістэмы прызначэння льготаў. Аб гэтым ужо і нашы псіхолагі праз 5 гадоў пасля катастрофы казалі, і місія таксама гэта адзначыла.

Алена ЛАБАНАВА

# Гэтае далікатнае слова «адмінрэсурс»

*Нашае стаўленне да рэчаў часцяком залежыць не ад сутнасці з'явы, а ад таго, якую назву для яе мы абралі. «Карупцыянер» глядзіцца значна больш рэспектабельна, чым «хабарнік». Калі з рэпутацыяй «рабаўніка» і ў касіры не возьмуць, дык з фармулёўкай «прысваенне дзяржаўных сродкаў» цалкам можна рупіцца пра народныя інтарэсы хоць у парламенце, хоць ва ўрадзе.*



Таму не дзіўна, што палітыкі не лічаць ганебным публічна абмяркоўваць, ці будуць яны выкарыстоўваць так званы «адмінрэсурс». Як быццам гэта пытанне іх добрай волі, а не артыкулу Крымінальнага кодэксу. Калі пакінуць двухсэнсоўнасці і казаць па сутнасці, то размова ідзе сама менш пра непрыгожы набор, які складаецца з запалохвання і подкупу выбарцаў і службовых асобаў, выкарыстання дзяржаўных сродкаў у інтарэсах асобных палітычных сілаў, дзяржаўнага ціску на СМІ, фальсіфікацыі вынікаў галасавання.

Дзе ж на гэты раз засвецяцца «пальчыкі» адмінрэсурсу? Яшчэ з часоў першых выбараў у Расійскай Імперыі склалася так, што палітыкі ад чынавенства – не экстрэмалы. Але заходнееўрапейская і паўночнаамерыканская дэмакратыя сцвярджалася са зброяй у руках, і выбары часта перарасталі ва ўзброеныя сутычкі. Украінскія традыцыі народжаліся фармаваліся ў цяпліннай атмасферы з вядомым разлікам на забітасць народу і разгулам тупенькіх прыпісак пры падліку галасоў. Таму МУС, Служба бяспекі Украіны, падатковая, «праслухоўкі», «падглядалкі», арышты ды іншы экстрэмальны арсенал украінскіх уладаў на выбарах, дзякуй Богу, выкарыстоўваюць не так часта, як пра гэта кажуць у апазіцыі. І зусім не праз мяккасць характару, а праз традыцыйна нізкі статус прадстаўнічых органаў улады. З ростам гэтага статусу расце і сілавы складнік выбараў. Дакладна зазначыў Ігар Папоў з Камітэту выбарцаў Украіны, што галоўная ўстаноўка украінскага чыноўніка на выбарах – «калі ёсць улада, то можна рабіць бясплатна». Характэрныя прыёмы: подкуп выбарцаў, выкарыстанне дзяржаўных і камунальных СМІ, фальсіфікацыя вынікаў галасавання.

Наколькі паўсядзённая рэч – ***подкуп выбарцаў***, і наколькі палітыкі не жадаюць здаваць сабе справы ў тым, што падарункі выбарцам – правапарушэнне, ясна са шчыраваннаў лідэра *«Жінок за майбутнє»* Валянціны Даўжэнкі: маўляў, нічога кепскага не бачу, «мы атрымліваем лісты з просьбамі аб дапамозе і звяртаемся да заможных людзей». Не чыноўніца, а выбарчы Робін Гуд нейкі: у багатых адбіраем – бедным аддаём.

А вось хто зусім «на халяву» працуе, дык гэта *«За єдину Україну»* з «сацыяльным кантрактам» – такая «адзінаўская» ўсеўкраінская *PR*-праграма, калі выбарцу прапаноўваюць унесці ў зацверджаны бланк свае пажаданні і паставіць подпіс. «Каманда бярэ на сябе абавязкі зрабіць тое і тое, а ўсё, што патрабуецца ад выбарца, – кажа старшыня Данецкага абласнога штабу блоку, – прагаласаваць за блок». Юрыдычна гэтую паперу нельга назваць подкупам выбарцаў. Але як разумець «сацыяльны кантракт», улічваючы, што пераважная частка спісу блоку – чыноўнікі? Калі яны не пройдуць у парламент, то катэгарычна не будуць нічога рабіць для сваіх выбарцаў? Фантастычнае нахабства патрабаваць галасы за элементарнае выкананне сваіх службовых абавязкаў.

У тым самым стылі прадстаўлеяцца «заядыстамі» і ***праца са СМІ***. Праўда, далей за бясплатныя публікацыі «праграмных» тэкстаў лідэраў блоку справа наўрад ці пойдзе.

Усё вышэйсказанае – мілыя *PR*-забавы ў параўнанні з магчымасцю ***фальсіфікацыі вынікаў галасавання.*** «Бясплатным» я лічу гэты рэсурс не толькі таму, што ўлады не плацяць за яго чальцам выбарчых камісій. Сумна, але, нават пры поўнай бяздарнасці ў астатнім, гэты рэсурс улады застаецца дзейсным.

Практычна выключана магчымасць атрымання камісіямі «лішніх» незапоўненых бюлетэняў для галасавання. Перадача іх ад ЦВК у акруговыя камісіі і далей да ўчастковых апісана досыць дэталёва; прадугледжваецца ўдзел усіх сябраў акруговых камітэтаў, публічная дэманстрацыя адной з копіяў пратаколу прадстаўнікам усіх партыяў. Такім чынам, калі ў камісіі з'явяцца «запасныя» няўлічаныя бюлетэні, то прывезлі іх дакладна не з ЦВК, а проста з друкарні.

Найбольш рэальныя спосабы фальсіфікацыі на ўчастках – «укіданне» падчас галасавання або падліку галасоў. Тут усё залежыць ад назіральнасці прадстаўнікоў партый. Працэдура галасавання і падліку галасоў таксама распісана са сцэнарнай дакладнасцю, аж да таго, калі якую урну адкрываць і ў якой паслядоўнасці лічыць бюлетэні. І не трэба расказваць, як кепска выконваюцца загады. Можна жаліцца на нахабства ўлады і адміністрацыйны ціск. Але, паклаўшы руку на сэрца, прызнайма – калі палітычная сіла прэтэндуе на кіраўніцтва краінай, але не ў стане арганізаваць кантроль на выбарчых участках, то каму яна трэба?

І апошнім, але не па значэнні, я б назвала такі рэсурс улады, як яе ***прававы нігілізм***. Прынамсі, усе папярэднія адмінрэсурсы робіцца магчымымі дзякуючы наяўнасці гэтага цэнтральнага. Змагацца з ім найцяжэй, але таму і трэба развіваць незалежную судовую сістэму. Дый увогуле, пытанне сумленных/несумленных выбараў вырашаецца не ў дыспутах пра маральнасць у палітыцы, а ў стварэнні партыямі інфраструктуры кантролю над выбарамі – працы ў выбаркамах, назірання на ўчастках, юрыдычнай падтрымкі для афармлення прэтэнзій. Калі такой сістэмы ніхто не ставрае, то запэўніванні партыяў у імкненні да дэмакратычнага, грамадзянскага і кожнага іншага адкрытага грамадства можна лічыць пустой рыторыкай.

**Вольга ЛЕНЬ**
**Uatoday.net**

**ДАВЕДКА**

Парламенцкія выбары ва Украіне адбудуцца 21 сакавіка 2002 году (па украінскай канстытуцыі яны мусяць праходзіць у апошнюю нядзелю сакавіка раз на чатыры гады).

Асноўныя сілы на выбарах – блок «За адзіную Украіну», куды ўваходзяць прапрэзідэнцкія партыі, асобныя буйныя чыноўнікі (напрыклад, прэм'ер-міністр Анатоль Кінах), апазіцыйны блок «Наша Украіна» на чале з колішнім прэм'ерам Віктарам Ючшанкам, Камуністычная партыя Украіны і сацыялісты.

# Свабода без цябе




Так называецца кніга, якую днямі выдала ў Мінску Таварыства маладых творцаў *KU TEATROWI* (Познань).

Гэта зборнік артыкулаў і лекцыяў польскіх журналістаў, тэатральных дзеячаў, артыстаў, інтэлектуалаў, якія бралі ўдзел у семінарах падрыхтоўкі менеджэраў культурных праектаў, што праходзілі ў Польшчы цягам мінулага году.

Але, па словах аўтара ідэі і рэдактара кнігі Іаланты Кільян, матэрыялы зборніка маюць зацікавіць шырэйшае кола чытачоў: «Гэта вопыт культурніцкіх рухаў у барацьбе з таталітарнымі рэжымамі, досвед суседзяў, які можа быць карысным сёння ў Беларусі. Мае сябры ў Польшчы, калі я кажу ім назву кнігі «Свабода без цябе», здзіўлена пытаюцца: «Без мяне?». Так, мы адмыслова далі гэтаму зборніку такую правакацыйную назву – каб кожны, хто возьме яго ў рукі, зразумеў: калі ты не будзеш змагацца за сваю свабоду, за свабоду ў грамадстве, свабода ўсё адно надыдзе, але не для цябе. Ад цябе шмат што залежыць».

Прэзентацыя кнігі «Свабода без цябе» адбудзецца ў аўторак, 19 лютага, у памяшканні мінскай бібліятэкі імя Я.Купалы.

**Кацярына БРОНСКАЯ**

# Салдаты Мусаліні ў савецкіх канцлагерах

*Італьянская газета La Nazione змясціла інтэрв'ю апошняга вязня сталінскіх лагераў з ліку італьянскіх ваеннапалонных часоў вайны, які застаўся жывы. Гвіда Музітэлі, быломy капітану 3-га альпійскага палка артылерыі, цяпер 88 гадоў. Ён пайшоў на вайну ў 1941-м, пакінуўшы дома жонку і сына, і трапіў у палон ува Украіне ўзімку 1943 году.*

***— Калі вы вярнуліся ў Італію?***

— З васьмю іншымі італьянцамі 12 лютага 1954 году.

***— Аднак 10 тысяч іншых вязняў вызвалілі нашмат раней, пачынаючы з 1946 году. Чаму затрымлівалі Вас?***

— Мы супрацьўляліся прапагандзе рускіх, а таксама італьянскіх камуністаў, якія былі ў СССР. Тальяці, Данофрыа, Рабоці ды іншым так званым камісарам, якія прыходзілі да нас чытаць лекцыі па палітыцы.

***— Што яны вам расказвалі?***

— Яны дрэнна выказваліся пра наш рэжым і пра салдат, што пайшлі ваяваць супраць СССР.

***— Вы былі фашыстам?***

— Зразумела, як і ўсе.

***— І з-за вашага супрацьстаяння вы зведалі катаванні і пакуты?***

— Пакутай была немагчымасць атрымаць весткі з дому, катаваннем было, калі аб твой нос гасілі цыгарэту, а яшчэ калі чалавека саджалі ў клетку памерам у квадратны метр, працягвалі паміж ног жалезную перакладзіну, каб ён не мог сесці, і ўключалі сляпучае святло, якое біла ў вочы дзень і ноч.

***— Які ў вас самы цяжкі ўспамін пра зняволенне?***

— У адным з лагераў за адзін месяц з голаду памерлі 30 тысяч зняволеных, 20 тысяч з якіх былі італьянцы. Гэта адбылося ў студзені 1943 году. І, на жаль, я на свае вочы бачыў мноства выпадкаў канібалізму.

***— Можа, раскажаце пра гэта?***

— Што тут расказваць? Елі трупы, а іншым разам нават тых, хто паміраў. Бо іхная кроў была яшчэ цёплая. Аднойчы адзін салдат працягнуў мне кацялок з чалавечым сэрцам, я з апошніх сілаў адштурхнуў яго, а салдат мне кажа: дарэмна, капітан, паспытайце, смачна.

***— Вы не мелі чаго есці?***

— Некалькі разоў прыносілі бочкі з цёплай вадой, і некалькі зняволеных патанулі, прыціснутыя іншымі, якія шукалі на дне хоць якую ежу. Гэта было пекла. Адзін на адным, гэтыя няшчасныя людзі, было нават незразумела, хто жывы, а хто памёр.

***— Як доўга працягваўся канібалізм?***

— Я не ведаю, бо праз 15 дзён афіцэрскі склад перавялі ў іншы лагер, дзе пачалася эпідэмія тыфусу, і з некалькіх тысячаў засталася сотня.

***— Чаму СССР вызваліў вас?***

— Памёр Сталін.

***— Ці ёсць у вас абурэнне супраць Мусаліні за тое, што ён арганізаваў экспедыцыю на той фронт?***

— Я думаю, недастаткова дакладна прааналізавалі нашыя ваенныя магчымасці і карысць ад нашага італьянскага корпусу – вось як было. Але гэта не віна Мусаліні. Яго прыціснулі да сцяны.

***— Праз колькі канцлагераў вам давялося прайсці?***

— За 12 гадоў я зведаў каля 40 лагераў, ад Украіны да Цэнтральнай Азіі і яшчэ ў Сібіры. З 1948 па 1954 год я быў на прымусовай працы: будаўніцтва, шахты, бавоўнявыя палі – усяго пабачыў.

***— Вам сняцца тыя дні?***

— Гэта мае кашмары. Нават сёння мне сніцца, што я застаўся там апошнім зняволеным, на якога ўсе забыліся.

**La Nazione**


Беніта Мусаліні


Італьянскія салдаты ва ўкраінскім стэпе

# У Садама шмат ратаўнікоў

Дзіўная рэч: калі пасля падзей 11 верасня 2001 году прэзідэнт ЗША Джордж Буш стаў за дырыжорскі пульт гэтага свету і пачаў шукаць саюзнікаў для вайны з тэрарызмам, ён за кароткі час сабраў пад сваё кіраўніцтва цэлы аркестр. Але калі ў лютым 2002 году Буш паведаміў тым самым саюзнікам, што вырашыў перайсці да наступнага этапу вайны супраць тэрарызму – зняцця іракскага дыктатара Садама Хусейна, – музыкі адзін за другім пачалі пакідаць аркестравую яму.

Прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін не раз публічна перасцерагаў свайго калегу ў Вашынгтоне ад правядзення ваенных аперацый. Гэта мае сваю традыцыю: у 1991 годзе, падчас вайны ў Персідскай затоцы, расіяне ратавалі іракца ад Буша-старэйшага. Яны пагражалі выйсці з кааліцыі. Буш праз сілу здаўся. Аргументы Масквы засталіся ранейшымі: Расія хоча весці з Іракам выгадны гандаль і не збіраецца дапускаць умацавання пазіцый амерыканцаў на Сярэднім Усходзе.

А кіраўнікі арабскіх дзяржаваў і без таго не надта супраць дыктатара. Па-першае, яны і самі такія ж, калі не горш. Падругое, амерыканцы праз сваю праізраільскую палітыку – ужо колькі дзесяцігоддзяў ворагамі нумар адзін і для тых народаў, чые кіраўнікі звязаны з ЗША. Рызыка для арабскіх палітыкаў была б вялікая. Для многіх іншых дзяржаваў справа стаіць аналагічна: усё добра, што аслабляе ЗША.

Розніцца матывы ў еўрапейцаў. Йошка Фішэр раздражніў Афганістанам левае антымілітарысцкае і антыамерыканскае крыло сваёй партыі. У год выбараў у Германіі праблема Іраку была б небяспечным дадатковым цяжарам. Французы, як заўсёды, хацелі б мець іншую ад амерыканскай думку. Нават для самага адданага з найадданейшых – брытанца Тоні Блэра – справа цяпер занадта гарачая. Вайна пры адсутнасці выразных доказаў датычнення Садама да тэрору Усамы бін Ладэна была б у Вялікабрытаніі непапулярнай.

У рэшце рэшт ніхто не ведае, што будзе з Іракам пасля Хусейна. Ці распадзецца ён, утварыўшы на поўначы курдскую дзяржаву? Гэтага натаўская краіна Турцыя баіцца больш, чым іракцаў. Так што Садам Хусейн можа спакойна спаць у сваіх палацах.

**Kleine Zeitung (Аўстрыя)**

**АЎТАМОДА**

# Самы папулярны колер аўтамабіляў у ЗША – серабрысты

Самы папулярны колер аўтамабіляў у ЗША – серабрысты, паведамілі эксперты кампаніі «Дзюпон аўтаматыў», адной з вядучых у Амерыцы фірмаў па вырабе фарбы і дэталяў аздаблення для аўтаіндустрыі.

Цягам апошніх 50 гадоў кампанія адсочвае тэндэнцыі ў галіне афарбоўкі машын, праводзячы рэгулярныя апытанні спажыўцоў, каб вытворцы маглі своечасова зрэагаваць на змены капрызнага попыту.

Згодна з апошнім даследаваннем, у мінулым годзе серабрысты колер пераважаў амаль ува ўсіх класах прададзеных у ЗША легкавых аўтамабіляў – ад кампактных да мікрааўтобусаў і недарожнікаў. «Серабрысты колер цудоўна адлюстроўвае той прадыктаваны тэхналагічным прагрэсам лад жыцця, які імкнуцца весці сённяшнія спажыўцы», – адзначыў адзін з кіраўнікоў кампаніі Роберт Дэйлі.

На другім месцы па папулярнасці – белы колер, затым ідуць чорны, цёмна-сіні, цёмна-зялёны, чырвоны, бэзавы, залацісты, ярка-чырвоны і шэры. Белай афарбоўцы, у прыватнасці, аддае перавагу большасць пакупнікоў аўтамабіляў дарагіх марак. Цікава, што і ў Еўропе мінулым годам пакупнікі часцей за ўсё спынялі выбар на машынах серабрыстага колеру.

Спецыялісты кампаніі лічаць, што найбліжэйшым часам будзе расці папулярнасць залацістага і жоўтага колераў. Але серабрысты наўрад ці саступіць свае пазіцыі.

Як запэўніваюць эксперты кампаніі, існуе непасрэдная сувязь паміж папулярнасцю афарбоўкі машын і становішчам краіны. У гады эканамічных спадаў і войнаў пакупнікі ахвотней куплялі аўтамабілі шэрых і цёмных адценняў. Калі ж эканоміка ў добрым стане, то людзям больш даспадобы яркія фарбы.

**Аляксандр ПАХОМАЎ**

# Усім не дагодзіш

## Якім мусіць быць беларускі гімн?

*Колькі разоў даводзілася бачыць, як на самых розных спаборніцтвах замежныя спартоўцы ўтрапёна і здумлёна слухаюць нацыянальныя гімны, а нашыя пад свой цягліцы размінаюць, а то і майкі церабяць. Беларусі даўно наспела пара займець паўнавартасны гімн. Гімн – абавязковы атрыбут дзяржавы. Без гімну яна нейкая непаўнавартасная. Але каб ён стаў, як той казаў, усіхнім, агульнанацыянальным, гэта будзе зрабіць вельмі складана.*

Хоць бы таму, што песняў-прэтэндэнтаў на гімн, прычым абсалютна годных, пяяльных і слухальных, у нас на амаль дзесятак беларусаў хопіць: «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» Макара Краўцова і Уладзіміра Тэраўскага, «Не загаснуць зоркі ў небе» Янкі Купалы і Міколы Янчука, купалава ж «Маладая Беларусь» на музыку Анатоля Багатырова, «Магутны Божа» Наталлі Арсенневай і Міколы Равенскага, гімн БССР – абясслоўлены ў незалежнай Рэспубліцы Беларусь – Нестара Сакалоўскага, «Радзіма мая дарагая» Алеся Бачылы і Уладзіміра Алоўнікава, Багдановічава «Пагоня», кампіляцыя з «Полацкага сшытку» 1640 году, нават класіка – паланез Агінскага... Гэта не называючы некалькі добрых гімнаў, створаных цягам апошняга дзесяцігоддзя падчас бясплённых – з-за лабіравання беларускім паэтамі і кампазітарамі сваіх мелодый і сваіх вершаў – конкурсаў на гімн. Згрызотнае амбіцыйнае закулісе не выключана і на гімнавым конкурсе 2002 году. Стаць аўтарам гімну і шанотна, і матэрыяльна выгадна. Прыкладам, аўтар словаў БССРаўскага гімну Міхась Клімковіч атрымаў за гэта ў 1955 годзе прэмію ў памеры 40 тысяч рублёў.

На конкурс на новы гімн Беларусі ўжо паступаюць першыя заяўкі. Пра іхні змест у адмысловай гімнавай камісіі не кажуць, адно прызнаюцца, што большасць прапанаваных варыянтаў – гэта тэксты паэтаў-аматараў на мелодыю Нестара Сакалоўскага. То не дзіва, бо хутчэй за ўсё прыняцце беларускага гімну пойдзе па расійскім сцэнары, калі быў вернуты стары гімн СССР з тэкстам, папраўленым адпаведна новым рэаліям. У нас пакінуць цяперашнюю музыку, пад якую народ прачынаецца а шостай і засынае а дванаццатай, пераробяць тэкст «Мы, беларусы, з братняю Руссю» ці напішуць зусім новы.

Былі б зараз у нашай краіне дзяржаўнымі сімваламі бел-чырвона-белы сцяг ды герб «Пагоня», – у гэтага варыянту гімну не было б ніякіх шанцаў. Ён гучаў бы яшчэ больш недарэчна, чымсьці цяпер, бо мала ў Беларусі знойдзецца людзей, у каго б гэтая мелодыя не асацыявалася з вершам пра тое, чаго шукалі беларусы разам з расейцамі. Цяперашні гімн з новымі словамі будзе гучаць трохі смешнавата. Хоць сама па сабе музыка Сакалоўскага вельмі файная і якраз-такі акурат гімнавая.

Праўда, гледзячы на склад гімнавай камісіі, лагічна было думаць, што мелодыя беларускага гімну абновіцца. Тут пераважаюць музыкі: Міхаіл Фінберг, Дзмітрый Смольскі, Ігар Лучанок, Міхаіл Казінец, Віктар Роўда ды іншыя. Сярод літаратараў – толькі дырэктар Інстытуту літаратуразнаўства Уладзімір Гніламёдаў ды сябра Саюзу пісьменнікаў, начальнік Галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення Адміністрацыі прэзідэнта Іван Карэнда. Астатнія – чыстыя чыноўнікі, як міністры культуры і інфармацыі Леанід Гуляка і Міхаіл Падгайны. Але вялікая колькасць знаных кампазітараў і музыказнаўцаў у камісіі можа быць абумоўленая не мэтай прафесійнага і густоўнага пошуку альтэрнатывы музыцы Сакалоўскага, а якраз тым, каб пакінуць у якасці гімну яе. Маўляў, глядзіце, якія вядомыя і кампетэнтныя людзі гэта вырашылі.

Як і ўсё ў Беларусі, мажлівыя гімны негалосна і недарэчна падзеленыя на апазіцыйныя і ўладныя. Ну, не пройдуць па азначэнні ў сённяшняй Беларусі тыя ж «Магутны Божа» ці «Мы выйдзем шчыльнымі радамі»! Дый не толькі з палітычных матываў. Пры жаданні ў кожным гімне можна знайсці недахопы.

Прыкладам, «Магутны Божа» – чыста рэлігійны гімн у форме малітвы. А гімн мусіць мець мабілізацыйны ўрачысты дух. Мала прасіць у Бога зрабіць «шчаслівай краіну нашу і наш народ». Трэба нешта ж і самім рабіць. «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» – занадта агрэсіўны, то ж ваяцкі марш слуцкіх паўстанцаў. Паланез Агінскага называецца «Развітанне з Радзімай» – занадта маркотна для гімну. І гэтак далей.

Усё ж галоўны крытэрый для нейкай песні, каб стаць гімнам – гэта яе вядомасць у народзе, аселасць у галовах да пазнавання, калі яна гучыць, і, натуральна, упадабанне. Дзеля гэтага варта было б наладзіць праз газеты і тэлебачанне азнаямленне людзей цягам некалькіх месяцаў з тэкстамі і музыкай самых перспектыўных варыянтаў гімну, а потым галасаванне густаў. На жаль, гэта ўмовамі конкурсу на гімн не прадугледжана. 3 ліпеня новы беларускі гімн ужо мусіць першы раз афіцыйна прагучаць. Наш прагноз: гэтым днём беларусы ўстануць альбо пад мелодыю Сакалоўскага, альбо пад кампрамісную ў палітычным сэнсе і дарэчную да 120-годдзя паэта «Маладую Беларусь» Купалы.

**Уладзімір ГІЛЕП, прэзідэнт Беларускага фонду культуры:**
Я ўпэўнены толькі ў адным: гімн трэба пісаць новы. І музыку новую, і тэкст. Праўда, маю сумнеў, што зараз нешта вартае напішацца.

**Рыгор САРОКА, дырэктар Маладзечанскай музычнай вучэльні імя Агінскага:**
На 100 працэнтаў упэўнены, што гэты конкурс не прынясе станоўчых вынікаў. Кампазітары адзін аднаму будуць замінаць. Прыкладам, Ігар Лучанок, як старшыня Саюзу кампазітараў, наўрад ці дапусціць, каб гімн быў кагосьці іншага, а не ягоны. Гімн мусіць быць непалітызаваны, гаварыць аб чалавеку, аб народзе, аб святасці. Думаю, «Магутны Божа» мог бы скансалідаваць нацыю.

**Пётр КАЧАН, тэлемайстар:**
А нашто гэты мяняць? Мне асабіста ён падабаецца – усё жыццё з ім пражыў. Дый не толькі я. Сапраўдная патрыятычная музыка. І без словаў прыемна гучыць. Зрэшты, Беларусь – краіна паэтаў: што-небудзь напішацца.

**Міхаіл ДРЫНЕЎСКІ, мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага народнага хору, чалец гімнавай камісіі:**
Трэба спачатку паслухаць, якія будуць варыянты. А так тое, што ёсць, мае права на жыццё. Быў бы жывы Алоўнікаў, ён мог бы падпрацаваць «Радзіму маю дарагую», у Кузняцова на аснове «Полацкага сшытку» цудоўны твор.

**Наталля ГОЛАД, юрыст:**
Прынамсі, не гэты, што зараз. Ён у мяне выклікае адмоўныя асацыяцыі з савецкім часам, дый з цяперашнім. А што я выбрала, сказаць не магу, бо ніякіх іншых гімнаў не чула.

**Кацярына КАСАТКІНА, эканаміст:**
Мне «Пагоня» падабаецца. Калісьці з гэтым вершам я выйграла конкурс чытальнікаў вершаў у школе. Глядзіце самі, як сімвалічна: герб «Пагоня» і гімн «Пагоня». Праўда, наўрад ці гэта мажліва ў наш час.

**Анатоль БУТЭВІЧ, былы міністр культуры Беларусі:**
Гімн мусіць адпавядаць менталітэту беларусаў. Ім мог бы быць «Магутны Божа», але ж для свецкай дзяржавы тое не дужа пасуе.

**Яраслаў ЛІШЫК, праграміст:**
Гімнам Беларусі я б хацеў бачыць, дакладней, чуць «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». З іншых добрых варыянтаў – «Магутны Божа» і паланез Агінскага, але яны занадта павольныя.

**Крысціна ЦЭДРЫК, студэнтка:**
Які б гімн ні зрабілі, беларусы прывыкнуць і палюбяць. А усіх жа не задаволіш?!

**Кастусь ТАРАСАЎ, пісьменнік:**
На мой густ, «Магутны Божа» за гімн прыняць цяжка, гэта хутчэй сектанцкая малітва пра добрае здароўе. Прыгожую гімнавую музыку напісаў кампазітар Васіль Раінчык, калі праводзіўся першы конкурс, ды нейк яе замоўчалі, бо тэкст належаў не вельмі знанаму паэту. А болей мне даспадобы паланез Агінскага. За ім два стагоддзі агульнага прызнання, і ён адпавядае народнаму менталітэту.

**Мікола РАМАНОЎСКІ, перакладчык:**
Думаю, што «Магутны Божа» – выдатны рэлігійны гімн, і хай ён такім і застанецца. А за дзяржаўны гімн найслушней было б абраць «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» – гімн Беларускай Народнай Рэспублікі, як найбольш традыцыйны, хоць і мала спяваны ў апошнія гады.

Падрыхтаваў **Мар'ян КАРЫМОНТ**



Гэтыя хлопцы, відаць, прагаласуюць за гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі»

# Музей старога Брэсту

Музей гораду, якога ўжо няма, ствараецца зараз у Брэсце. Людзям будзе надзвычай цікава пазнаёміцца з паселішчам сваіх прашчураў на абарончых умацаваннях каля сутокаў Мухаўцу і Заходняга Бугу. Зноў нібыта ўваскрэсне Берасцейскі замак з земляным валам, а побач з ім – храмы, брацкія школы, майстэрні рамеснікаў і крамы купцоў. Над макетамі дойлідства 17-га стагоддзя працуе грамадскае маладзёжнае аб'яднанне «Спадчына», створанае яшчэ ў 1996 годзе ў Брэсцкім палітэхнікуме. Ягоныя навучэнцы напрыканцы красавіка перададуць свой мініяцюрны горад у новы музей.

Дарэчы, цягам мінулых пяці гадоў сябры «Спадчыны» вырабілі макеты больш як 300 асобных будынкаў і архітэктурных помнікаў, у тым ліку зруйнаваных войнамі, калектывізацыяй, ваяўнічымі атэістамі. Зараз у заходнім рэгіёне ўсталёўваецца трывалая цікавасць да ўзораў першапачатковай архітэктуры храмаў, былых палаца-паркавых сядзібаў, цяперашніх офісаў у гістарычных будынках. Па адмысловых заказах у маштабе 1:100 выраблены макеты былога Пружанскага «палацыку», Стара-Пескаўскай сядзібы, капліцы ў вёсцы Закозель Драгічынскага раёну, Ляхавіцкага замка. Хоць грошай за сваю работу навучэнцы не бяруць, але ўдзячныя фундатарам за матэрыялы і інструмент для далейшай працы.

**Галіна БАРАВАЯ**

КІНО

# «Анастасію Слуцкую» абрэзалі

Гістарычны фільм «Анастасія Слуцкая», здымкі якога Міністэрства культуры і кінастудыя «Беларусьфільм» падаюць як чарговую спробу стварэння сапраўды якаснага і нацыянальнага беларускага кіно, усё ж будзе здымацца. Нягледзячы на мізэрнае фінансаванне гэтага праекту.

Пра ідэю стварэння гістарычнага фільма пра беларускую Жанну д'Арк – так называюць некаторыя княгіню Анастасію Слуцкую, якая па смерці мужа, князя Сямёна, узяла на сябе кіраванне абаронай Слуцка ад татарскага нашэсця, – гаворкі ідуць ужо некалькі гадоў. І да канкрэтнай справы дайшло нават. Рэжысёрам быў прызначаны сын Расціслава Янкоўскага Уладзімір, які, праўда, дагэтуль мастацкіх фільмаў не здымаў, а ствараў толькі музычныя ды рэкламныя кліпы. Зрабілі старажытныя касцюмы, макет драўлянага гораду, дзе павінны былі адбывацца падзеі, вёўся пошук акцёраў. Адно што грошай на ўсю карціну дзяржава выдзеліла ўсяго каля мільёна даляраў, і тыя пацяху з'ядала і дагэтуль з'ядае інфляцыя. Уладзімір Янкоўскі спадзяваўся, што сродкаў на фільмададуць і дзяржава, і прыватныя фундатары. Не выпала ні першае, ні другое. У роспачы Уладзімір Янкоўскі вырашыў адмовіцца ад здымак фільму: ён не ўяўляў, як за такія мізэрныя грошы (а нават мільён даляраў для пастаноўкі гістарычнага фільма – гэта капейкі) можна зняць нешта людскае і вартае цікавасці гледача. У адных толькі батальных сцэнах мусілі браць удзел некалькі тысяч чалавек. Конніца, гарматы... Нават чалавек, не дасведчаны ў кінавытворчасці, можа здагадацца, што гэта ўсё каштуе надзвычай дорага.

Аднак на «Беларусьфільме» ад здымак гэтай стужкі не адмаўляюцца. Новым рэжысёрам кінакарціны стаў Юрый Елхаў (дарэчы, не рэжысёр, а аператар па прафесіі). Праўда, і ён не мае веры, што за мільён даляраў можна зняць файнае кіно. Да прыкладу, палякі на свой «Агнём і мечам» патрацілі 40 мільёнаў. Уладзімір Янкоўскі патрабаваў на стварэнне «Анастасіі Слуцкай» сама менш 3 мільёны даляраў.

Па нашых звестках, першапачатковы сцэнарый «Анастасіі Слуцкай» моцна скарочаны, адтуль павыкрэслівалі батальныя сцэны, большасць эпізодаў цяпер будзе здымацца ў павільёнах. А Уладзімір Янкоўскі, які спачатку адмовіўся ад рэжысёрства, зараз хоча зняць сваё прозвішча і са сцэнарыю, дзе ён быў адным з аўтараў.

Такім чынам, ужо загадзя, калі яшчэ не адзняга ні хвіліны гэтага фільма, можна казаць пра тое, што наша Анастасія Слуцкая, прынамсі на экране, наўрад ці дацягне да кінастужак пра Жану д'Арк.

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

АСВЕТА

# Грошай на «адточаны меч» краіна не пашкадуе

Кіраўнік краіны Аляксандр Лукашэнка палічыў неабходным правесці спецыяльную нараду па пытаннях падрыхтоўкі школьных падручнікаў, найперш па гуманітарных дысцыплінах. Па завядзёнцы, падстава – народныя скаргі: «Мне часта даводзіцца выслухоўваць нараканні настаўнікаў, бацькоў, грамадскасці на якасць нашых падручнікаў, таго матэрыялу, складанасць яго для ўспрымання розумам нашых вучняў, – сказаў прэзідэнт. – Да гэтага часу ў нашых падручніках дапускаецца (гэта недапушчальна наагул) скажэнне гістарычных фактаў. Часам яны занадта навукападобныя. Тое, што прапануецца школьнікам, з цяжкасцю могуць асвоіць людзі з вышэйшай адукацыяй, а калі і асвояць, яны не ўспрымаюць гэтага». Якімі ж павінны быць новыя падручнікі, прыдатныя для засваення і ўспрыняцця розумам дзяцей? «Падручнік павінен быць, – вобразна растлумачыў А.Лукашэнка, – як з добрай сталі адточаны меч. Мы павінны такі падручнік стварыць. Грошай на гэта краіна не пашкадуе».

Што ж такое здарылася ў навуцы ці ў свеце, што стварэнне новых падручнікаў стала «пытаннем архіважным, пытаннем дзяржаўнай важнасці», і неабходна аддаваць апошнія грошы на іх перараробку, а, скажам, не хворым дзецям ці нямоглым старым? Крыху прасвятляюць змест праблемы «дзяржаўнай важнасці» словы А.Лукашэнкі, што найбольшую ўвагу трэба аддаваць «падручнікам гуманітарна-грамадскай тэматыкі – гісторыі, грамадазнаўства, літаратуры», інакш кажучы, «архіважнай» мусіць быць ідэалогія дзяржавы.

Міністр адукацыі Беларусі Пётр Брыгадзін удакладніў на нарадзе, што трэба перапрацаваць тры чвэрці падручнікаў па гуманітарных дысцыплінах. Падручнікі па гісторыі, паводле слоў міністра, наагул патрабуюць стопрацэнтнай перапрацоўкі, паколькі для іх характэрныя «метадалагічная нявыверанасць, павярхоўнае асвятленне, асабліва найноўшай гісторыі, канцэптуальныя памылкі, слабае маральнае напаўненне зместу». На жаль, міністр не паведаміў, чым жа ў такім выпадку займалася спецыяльна створаная прэзідэнтам камісія па падручніках, якую ўзначальваў ці якою апекаваўся нядаўні галоўны ідэолаг палкоўнік Ул.Замяталін? Няўжо яны мала вывяралі і нешта канцэптуальнае недагледзелі?

Напрыканцы нарады А.Лукашэнка абвясціў, што пытанне падрыхтоўкі падручнікаў ён возьме пад асабісты кантроль. Наступную «падручнікавую» нараду з яго ўдзелам чакаюць у канцы гэтага квартала, а да канца сёлетняга навучальнага году павінны быць зацверджаны творчыя калектывы будучых аўтараў школьных (відаць, адпаведна і інстытуцкіх) падручнікаў. Метадалагічна галава дзяржавы скіраваў творцаў на тое, што школьны падручнік «не павінен ствараць пад існуючую ўладу».

Наколькі можна судзіць па складзе ўдзельнікаў нарады, стварэнне новых падручнікаў не будзе вялікай праблемай. Як вядома, новае – гэта забытае старое. Хутчэй за ўсё, творчыя калектывы здзьмуць пыл з падручнікаў эсэсэсэраўскага часу, выкінуць адтуль радочкі пра перамогу камунізму і савецкіх людзей як перадавы атрад чалавецтва, і школа наноў атрымае тое, што мела да 1990 году.

**Валянціна БЕЛАЯ**

# У музеі вучаць разьбярству

У Аршанскім музеі імя Сямёна Шаўрова, які з пачатку свайго існавання аб'ядноўваў у сабе музейную экспазіцыю і майстэрню вядомага разьбяра, пасля трохгадовага перапынку ўзнавілася навучанне дзяцей майстэрству разьбы па дрэве. Музей быў адчынены ў 1992 годзе, яшчэ пры жыцці майстра, у былым ягоным доме. Ён ствараўся як унікальная музейная ўстанова, якая ўключала экспазіцыю лепшых твораў народнага майстра Сямёна Шаўрова і майстэрню, дзе ён працягваў працаваць і навучаў свайму майстэрству таленавітых хлопцаў і дзяўчат. Пасля смерці Сямёна Шаўрова два гады таму майстэрня пэўны час пуставала. Але з лютага гэтага году дзейнасць гуртка разьбы па дрэве ўзнаўляецца. Група збярэ пятнаццаць дзяцей, а навучаць іх будзе адзін з найлепшых вучняў Шаўрова Ігар Балаханаў, які нядаўна скончыў акадэмію мастацтваў у Мінску.

**Міхал ЧАРВІНСКІ**

# Турызм без дзяржаўнай падтрымкі

У 2001 годзе Беларусь зарабіла на турызме 10 мільярдаў рублёў і 8 мільёнаў даляраў. У параўнанні з пазамінулым годам прыбыткі ад турыстычнай дзейнасці ў беларускіх рублях выраслі на 20%, а ў валюце – на 6%. Але ўсё роўна сітуацыі гэта не змяніла. Як і раней, у валавым унутраным прадукце турыстычныя паслугі забяспечваюць не больш за 1%. А маглі б усе 10%. Прыкладна столькі зарабляюць на турызме краіны з падобным да беларускага турыстычным патэнцыялам.

Для любой краіны найважнейшыя турысты – замежныя, якія, прыязджаючы да нас, могуць пакінуць тут свае грошы. Міністэрства спорту і турызму вызначыла рэйтынг папулярнасці абласцей Беларусі паводле наведвання іх замежнікамі. Першае месца за Міншчынай, куды летась турыстаў прыехала на 30% болей, чым звычайна. Віцебшчына апынулася на другім месцы дзякуючы падвышанаму попыту на яе славутыя мясціны з боку латышоў і немцаў.

З латышамі віцябляне дамовіліся на турыстычны абмен па спрошчанай працэдуры афармлення дакументаў. Турыстаў-латышоў у нас адразу паболела – іх на 25% больш за беларусаў, якія выязджалі ў Латвію. Прыкладна такая самая сітуацыя з літоўскімі турыстамі. Вось прыкладна і ўсе нашыя леташнія дасягненні ў гэтай галіне.

А праблемы можна пералічваць бясконца. Напрыклад, Адміністрацыя прэзідэнта як паўнапраўны ўласнік багаццяў нацыянальных паркаў і запаведнікаў летась цалкам манапалізавала права на арганізацыю паляўнічых тураў у запаведныя мясціны Мядзельшчыны. Гэта прыцясняе інтарэсы турфірмаў. Яшчэ адной негатыўнай тэндэнцыяй мінулага году стала скарачэнне працягласці знаходжання на беларускай тэрыторыі замежнікаў, якія завіталі да нас па сваіх бізнесовых справах.

Летась Беларусь так і не стала сябрам Міжнароднай турыстычнай арганізацыі, якая аб'ядноўвае 139 краінаў свету. Затое нас упершыню запрасілі на паседжанне гэтай арганізацыі, што ўжо можна расцэньваць як першы крок да аптымістычнай будучыні.

Ну, і нарэшце, Беларусь ужо каторы год застаецца адзінай краінай на постсавецкай прасторы, якая аніяк не падтрымлівае з бюджэту сваю турыстычную галіну. Ва ўрадзе на гэта свой погляд: не падтрымліваем і не пачнём гэтага рабіць, пакуль турыстычны бізнес самастойна не акрыяе. А да таго часу нават уздымаць гэтае пытанне чыноўнікам ад турызму нібыта няёмка.

**Алена ЛАБАНАВА**



Маршрут для цікаўных: мінскія дзяўчаты на экскурсіі ў гомельскай жаночай калоніі

# Пераадоленне зямнога прыцягнення

*Змалку год дзякуючы казкам многія вераць, што ведзьмы лятаюць на мятле, а праведнікі ўзносяцца на неба. У навуцы такія палёты называюцца левітацыяй.*





Брытанская энцыклапедыя вызначае феномен левітацыі як «звышнатуральную здольнасць рабіцца лёгкім па ўласным жаданні і ўздымацца ў паветра без выкарыстання механізмаў». Апісанні выпадкаў левітацыі сустракаюцца ў літаратурных помніках са старажытных часоў, усе яны носяць, кажучы сучаснай мовай, ідэалагічны характар. Вядзьмаркі левітавалі, бо мелі стасункі з д'яблам, таму іх за «палёты» палілі на вогнішчах, для праведнікаў яны лічыліся адзнакай святасці, і таму да іхніх абразоў прыходзілі з малітвай. Згодна з рэлігійнымі крыніцамі, у хвіліны малітоўнага экстазу ў паветра ўздымалася і нямала простых вернікаў. Ёсць дакументы, якія апісваюць, як адзін іспанскі паломнік здолеў пераляцець цераз шырокую раку, а біскуп Валенсіі лунаў над зямлёй аж 12 гадзін. Сведкамі палётаў манахіні-карміліткі Тэрэзы аднойчы сталі 230 каталіцкіх святароў. Пра свой дар Тэрэза апавяла ў аўтабіяграфіі, датаванай 1565 годам: «Узнясенне прыходзіць як нечаканы ўдар, і табе здаецца, нібыта воблака нясе цябе на неба... Я цалкам усведамляла сябе і бачыла, што знаходжуся ў паветры... Мушу сказаць, што, калі ўзнясенне канчалася, я адчувала незвычайную лёгкасць у целе, быццам я зусім нічога не важыла». Праведнік Іосіф Дэза, які жыў у 17-ым стагоддзі, з дзяцінства адзначаўся надзвычайнай набожнасцю і ўсяляк сябе катаваў, каб дазнаць рэлігійнага экстазу. А калі яго прынялі ў ордэн францысканцаў, ён стаў сапраўды дасягаць экстазу і ў такім стане падымаўся ў паветра. Болей за сто выпадкаў левітацыі Іосіфа назіралі тагачасныя вучоныя, якія пакінулі пра гэта афіцыйныя сведчанні.

Ад каталікоў мусіла не адставаць праваслаўе. Маскоўскія летапісы апавядаюць, што вядомы ўбогі Васіль Блажэнны не аднойчы ў прысутнасці натоўпу пераносіўся цераз Маскву-раку. Наколькі можна верыць сведчанню зацікаўленага летапісца – справа іншая. Усяго ж, згодна са сведчаннямі царкоўнай літаратуры, колькасць святых і шчырых вернікаў, якія дэманстравалі феномен левітацыі, сягае за тры сотні.

На Усходзе мастацтву левітацыі навучаліся наўмысна. У індыйскіх Ведах змяшчаецца нават практычны дапаможнік па левітацыі, які апісвае, як прывесці сябе ў належны стан, каб адарвацца ад зямлі. Левітацыя практыкавалася ў Тыбеце. Будыйскія тэксты апавядаюць, што ў 527 годзе ў манастыр Шаолінь прыйшоў індыйскі пачынальнік будызму Бадхідхарма і навучыў манахаў кіраванню энергіяй цела – неабходнай умове для палётаў.

У Індыі і Тыбеце навука левітацыі захавалася да нашых дзён. Напрыклад, брытанская падарожніца Аляксандра Давыд-Няель назірала, як на высакагорным плато Чанг-Танга адзін будыйскі манах, седзячы нерухома з падагнутымі пад сябе нагамі, пралятаў дзесяткі метраў, датыкаўся зямлі і зноў падымаўся ў паветра. А ў 1986 годзе ў Вашынгтоне нават праводзілася спаборніцтва «левітатараў». У ім удзельнічалі 20 чалавек. Праграма ўключала палёты ўвышыню (дасягнуты рэкорд – 60 см), палёты на адлегласць (рэкорд – 1,8 м) і палёты на хуткасць на дыстанцыі 25 метраў з перашкодамі вышынёй 20 см. Для поўнага даверу ўсім гэтым звесткам не хапае фота- і кінасведчанняў ці хоць бы прысутнасці пры такіх рэкордах незацікаўленых назіральнікаў.

З незалежнымі доказамі ў сферы левітацыі становішча прыкладна гэткае ж, як з НЛА: шмат людзей нібыта бачылі, нават здымалі, але ніводнага рэальнага здымку пакуль што чалавецтва не мае. Цалкам магчыма, што і шматлікія аповеды пра палёты людзей – гэта эмацыйная рэакцыя на тыя сны з палётамі над зямлёй, якія бачыць у пэўным веку большыня людзей. Людзям заўжды хацелася пашырыць межы сваіх магчымасцяў, і фантастыка дапамагае задаволіць такія жаданні.

Аднак стаўленне да феномена левітацыі ў сучасных вучоных пачало мяняцца пасля шэрагу вопытаў, праведзеных у лабараторыі тэхналагічнага універсітэту фінскага гораду Тамперэ. Фізікі ахалоджвалі спецыяльны дыск да мінус 167 градусаў па Цэльсію і змяшчалі яго ў электрамагнітным полі, якое прымушала яго круціцца. Пры дасягненні 3 000 абаротаў за хвіліну рэчы, змешчаныя над дыскам, пачалі страчваць сваю масу. Даклад аб выніках эксперыментаў быў апублікаваны ў навуковых часопісах, пасля чаго адно за адным пачалі з'яўляцца паведамленні даследчыкаў аб назіраных імі антыгравітацыйных эфектах. Джоэ Шнурар з Энтыоцкага каледжу штату Агаё паведаміў, што калі над магнітам змясціць звышправаднік, ён завісае ў паветры. Наагул, гэткая з'ява ўжо была вядомая як «эфект Мэйснера». Але цікавым стала вось што: вымярэнні паказваюць, што над сістэмай са звышправаднікам узнікае зона, дзе рэчы губляюць да 5 працэнтаў сваёй вагі.

А галандскія вучоныя здолелі падвесіць у паветры жывую жабу. Яна змяшчалася над катушкай са звышправадніка: моцнае поле ўздзейнічала проста на клеткі цела, ствараючы ў іх магнітны момант, супрацьлеглы магнітнаму полю Зямлі. Такім чынам, ствараліся сілы, якія нейтралізавалі прыцягненне. Галандцы сцвярджаюць, што іхняя жаба – першая зямная істота, якая ўзнялася ў паветра з дапамогай так званага «малекулярнага магнетызму». Даследчыкі заявілі, што з дапамогай сваёй апаратуры яны змогуць падымаць у паветра любы аб'ект. Пакуль жа, пасля эксперыменту з жабай, яны падвесілі ў паветры бутэрброд.

Дарэчы, у адным з універсітэтаў на кафедры псіхалогіі быў праведзены вельмі цікавы эксперымент. У часе сеансу гіпнозу паддоследнаму ўнушылі, што ён знаходзіцца ў касмічным караблі, які выходзіць на арбіту. Як паведамілі потым удзельнікі эксперыменту, калі яны і разлічвалі зафіксаваць змены паказчыкаў, дык нязначныя. І таму, калі прыборы засведчылі поўнае знікненне вагі, вучоныя не паверылі сваім вачам. Але гэты неверагодны факт быў зафіксаваны прыборамі. Па сведчаннях спецыялістаў, вага паддоследнага, няхай і на нязначны час, знікла цалкам.

На фоне такіх навуковых эксперыментаў аповеды пра палёты шаолінськіх манахаў і шпацыры праведнікаў па вадзе, як па асфальце, выглядаюць занадта фантастычна. Чамусьці ў наш час, прынамсі ў Еўропе, не знайшлося ніводнага ведзьмара, ніводнага праведніка, ніводнай вядзьмаркі, якія прадэманстравалі б сваё майстэрства ў левітацыі на вачах сведкаў. Таму, хутчэй за ўсё, не было іх і раней. Але навука, здаецца, зрабіла ўжо першыя крокі да таго, каб здзейсніць старадаўнюю мару чалавецтва і, магчыма, услед за жабай і чалавек, насуперак фізічным законам, здолее рухацца ў паветры, як тыя казачныя ведзьмы.

**Па матэрыялах прэсы**

# Астралагічны прагноз

## ад Веранікі Кудраўцавай на 18 – 24 лютага

***Астрапрагноз адлюстроўвае агульны прыродны сацыяльна-псіхалагічны фон накшталт прагнозу надвор'я. Індывідуальнае прагназаванне грунтуецца на дакладных звестках: улічваецца дзень, месяц, год, месца і час нараджэння чалавека.***



**АВЕН.** У пачатку тыдня чуткі могуць паралізаваць дзеянні, не выключана, што будзе фінансавы стопар. А вашыя прэтэнзіі на нерухомасць наўрад ці будуць задаволены. Энтузіязм прачнецца бліжэй да выходных. Але тады вы больш будзеце думаць пра вясёлую кампанію, змену абставінаў у камандзіроўцы, у найлепшым выпадку – пра незвычайны праект, які патрабуе «калектыўнага розуму».



**ЦЯЛЕЦ.** Не надта спадзявайцеся на чалавечую спагаду тых, хто вінен вам, на пачатку тыдня. Вырашайце гэтыя праблемы пад выходныя. У пятніцу і суботу гатовы спрацаваць запасны (або праз пратэкцыю) варыянт атрымання новай працы, пасады. Ва ўсякім выпадку, не рэкамендуецца дзейнічаць адкрыта. Памятайце, што нехта са сваякоў можа наведацца ў нядзелю ў госці, а ў вас – пуста, як вымецена.



**БЛІЗНЯТЫ.** Паклапаціцеся своечасова пра бюлетэнь ці пра тое, каб у начальства не ўзнікала лішніх пытанняў на выпадак вашай часовай непрацаздольнасці. Пачатак тыдня – не лепшы перыяд для самасцверджання. Затое бліжэй да выходных ёсць верагоднасць удзелу ў прэстыжным мерапрыемстве. Нядрэнна было б адшліфаваць свае аратарскія здольнасці і дар пераконваць. Зрабіце стаўку на нефармальныя стасункі.



**РАК.** Вам, відаць, давядзецца абмяжоўваць сябе ў сродках і пераездах. І тут вы, на дзіва, знойдзеце здаровы сэнс у пабудове асабістых адносінаў. Эмоцыі адыходзяць на другі план, людзі правяраюцца на адданасць. Каб скочыць вышэй сваёй галавы ў найважнейшых справах, пад выходныя запатрабуюцца ўмельствы авантурыста ці дапамога добрага сябра, і тады можна будзе папіць шампанскага.



**ЛЕЎ.** Нейкая жанчына здольная дыскваліфікаваць вас у панядзелак. Тым не менш у наступны ж дзень вы не ў стане замяніць маральную шкоду матэрыяльнымі выгадамі. Новае знаёмства і нават проста выпадковая гутарка ў пятніцу ці суботу могуць вывесці на цікавыя ідэі і магчымасці. Магчыма, давядзецца стаць лёгкім на пад'ём, пры нагодзе – выправіцца ў доўгую вандроўку.



**ПАННА.** Праз канфлікт вы можаце страціць імідж прафесіянала (у грашовых адносінах таксама). Таму ў панядзелак імкніцеся пазбягаць размовы з начальствам, не абвастраць ні з кім стасункаў. У аўторак дэталёвы аналіз дакументаў пазбаўляе непаразуменняў. Бліжэй да выходных вы можаце знайсці варыянты выхаду з залежнага стану, заключыць перспектыўныя пагадненні.



**ШАЛІ.** Калі ўжо выпраўляцца ў паездку, то лепш не на пачатку тыдня – цяжка будзе сабраць у адным месцы патрэбных вам людзей. А вось у аўторак вы можаце талкова правесці перамовы наконт атрымання грошай ці падвышэння заробку. Бліжэй да выходных нечаканыя сустрэчы дораць вам цікавых і важных асобаў, здольных зрабіцца ў будучыні добрымі партнёрамі. У нядзелю сцеражыцеся страты грошай.



**СКАРПІЁН.** У панядзелак каханыя не надта вас вітаюць і шкадуюць. Давядзецца падумаць і ў аўторак знайсці разумнае вырашэнне асабістых праблем. Пад выходныя чакаюцца варыянты абмену ці ўдасканалення «кватэрнага пытання», а ў бізнесе – фундаментальныя камерцыйныя прапановы, што запатрабуюць пэўных авантурных рашэнняў, навуковай навізны.



**СТРАЛЕЦ.** Толькі не падумайце дзяліць маёмасць з сужэнцам, партнёрам ці ўвогуле вырашаць якія-кольвек матэрыяльныя пытанні – нічога апроч сваркі не атрымаецца. Лепш высветліце свае магчымасці ў гэтых справах з прафесійным або таемным кансультантам. Свята абаронцы Бацькаўшчыны атрымаецца на славу, з прыгодамі, што дадасць агню ў кроў. Можа пачацца палкі раман.



**КАЗЯРОГ.** У панядзелак капрызы лёсу, лёгкія асабістыя сустрэчы могуць каштаваць лішніх грошай, выклікаць працоўныя праблемы і не прывесці да жаданага. Пачніце тыдзень з аўторка, выразна расплануйце свой графік. Бліжэй да выходных у доме чакаюцца госці, якія прыносяць добрыя весткі аб прыбытках. Не выключана нечаканае вырашэнне праблемаў з кватэрай. У суботу магчыма каштоўная прапанова па працы.



**ВАДАЛІЎ.** Каханы або чалавек, што сімпатызуе вам, у панядзелак выкажа незадавальненне вашым матэрыяльным удзелам у ягоным лёсе. Пастарайцеся адсунуць такія высвятленні на заўтра і не забудзьцеся на падарунак – можа, на працы атрымаеце грошы. У пятніцу і суботу выпадзе шанец, каханне з першага погляду, выгадная пакупка аўтамабіля, калі не будзеце сядзець на адным месцы.



**РЫБЫ.** Глядзіце, каб госці не ўчынілі развалу ў вашым доме на пачатку тыдня. На гэтай глебе можа адбыцца непрыемная размова з роднымі. У аўторак сужэнец гатовы пакласці канец крызісу. Вы цалкам паспяховы прадпрымальнік пад выходныя, можна купляць тавар. Самы час паклапаціцца пра вырашэнне бытавых дробязяў і навядзенне неабходных даведак для тых, хто думае з'ехаць далёка на заробкі.

Галоўны рэдактар **Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, вул. Рафіева, д.25, корп.1. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1123 Нумар падпісаны ў друк 17/02/2002 (15:00) Наклад – 7.950